# АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

# Я ВАС ЛЮБЛЮ...



*Лірыка*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

*Светлай памяці маці —*
*Еўдакіі (Дамінікіі) Нічыпараўны*



*Два чувства дивно близки нам —*
*В них обретает сердце пищу —*
*Любовь к родному пепелищу,*
*Любовь к отеческим гробам.*

*(На них основано от века*
*По воле Бога самого*
*Самостоянье человека,*
*Залог величия его).*

*А. С. Пушкін*

## Радзіма

*Стагоддзямі маёй Радзімы сіла*
*Захопнікаў і ўладароў крышыла.*

*Ад стрэл качэўнікаў да рурскага металу*
*Яна ў глыбінны жвір пераплаўляла.*

*Апаленая доляю агністай,*
*Усё стрываўшы, засталася чыстай.*

*І гэту шматпакутную зямлю,*
*Як прашчуры і продкі, я люблю.*

*І, як зямлю ніхто не змог спаганіць,*
*Ні скваппныя цары, ні каралі —*

*Не вынішчыць маю любоў і памяць,*
*Пакуль жыву на гэтай на зямлі.*

# Віцька Моцін



*Амаль аглух*
*Ад магістралі,*
*Пакуль спыніўся*
*Над Сажом,*
*Дзе шмат гадоў*
*Гайдаюць хвалі*
*Неструхлявелы*
*Наш паром.*

*Ніхто не стрэціць,*
*Не прывеціць...*
*Якою доля ні была —*
*Крыжы магіл бацькоў*
*Мне свецяць*
*Адсюль,*
*З палескага сяла.*

*Дык хто ж крануў*
*Мяне за плечы?..*
*У цішыні*
*каля вады*
*Пачуў я голас чалавечы*
*Бадзёры,*
*Дужы,*
*Малады.*

*— Не прызнаеш?*
*Я — Віцька Моцін!*
*Ну, брат, даеш —*
*Не прызнаеш!*
*Я тут,*
*як бусел на балоце.*
*А ты?*
*Як ты цяпер жывеш?*

*Гляджу*
*На самазванца-брата*
*І чую свіст*
*Варожых куль.*
*Яго татусю бачу,*
*Ката,*
*Што знік з чужынцамі*
*Адсюль.*

*Ён, сын,*
*За бацьку не ў адказе.*
*Вайна на тое і вайна.*
*Ды для мяне,*
*Ва ўсякім разе,*
*Яшчэ не скончана яна.*

*Не ўсе і зараз*
*Хлебадайцы.*
*Ды хто мне з памяці*
*Сцярэ:*
*Мы з братам*
*Рады шалупайцы,*
*А Віцька побач сала жрэ.*

# Маруся



*Пасляваенныя вячоркі...*
*Да самай ранішняе зоркі*
*Я побач з Мішам-гарманістам*
*У пругкі бубен б'ю з прысвістам.*

*Мой бубен стогне і смяецца,*
*Ён то салоўкаю зальецца,*
*То, нібы зяблік, запішчыць,*
*То кнігаўкай папросіць піць.*

*Ужо даўно сябрук мой, Міша,*
*Парэпаныя вусны ліжа.*
*Але нясецца карагод,*
*Пыл выціраючы і пот.*

*Павылятаюць пары з круга*
*Да Сожа соннага, да луга.*
*І Міша пакладзе гармонік.*
*— Нясі дадому,— скажа,—*
*Толік...*
*І знікне ў цемры пад гарой*
*Са старшынёваю дачкой.*

*І вось адзін я застаюся*
*У дрогкай і салодкай скрусе.*
*Баюся я і спадзяюся,*
*Што сядзе побач зноў Маруся.*

*Яе да хаты не праводзяць*
*Туды, дзе вочы сном салодзіць*
*Сынок.*
*А ад каго — здаецца,*
*У вёсцы кажуць, што ад немца.*

*Прысядзе побач зноў Маруся,*
*Я да пляча яе прыткнуся.*
*Мне стане горача і млосна,*
*Яе адчуўшы пругкі бок.*
*Яна ўздыхне і скажа:*
*— Позна!*
*Хадзем дадому, жанішок!*

*І павядзе мяне, малога,*
*Гармонік сціснуўшы ў руках...*
*Я скрып суседскага парога*
*Дагэтуль чую па начах.*

*Другія пары карагодзяць,*
*А мне здаецца ўсё адно,*
*Адна дамоў Маруся ходзіць,*
*Хоць з'ехала яна даўно.*

# Дзядзька Фіма



*— Не трэба, хлопча, гараваць,*
*Нам трэба ночку начаваць,—*
*Сказаў нарэшце дзядзька Фіма*
*І стаў майстэрню замыкаць.*

*Я, разамлелы ў час вячэрні,*
*Драмаў ужо ў кутку майстэрні,*
*За дзень пратопаўшы зімой*
*Вёрст дваццаць з гакам пехатой.*

*Па прыкладу суседа Мішы*
*У горад навастрыў я лыжы.*
*І маці мне сказала:*
*— Можа,*
*Там дзядзька Фіма дапаможа...*

*Як пасівеў ён, дзядзька Фіма!*
*Яго забыць мне*
*немагчыма*

*З тае блакаднае пары,*
*Калі у нашым у двары*
*Ён ля пахілае вярбіны*
*Рабіў з гадзіннікамі*
*міны.*

*На нас зірнуўшы зверху ўніз,*
*Казаў:*
*— Ну вось гатоў сюрпрыз!*

*І адганяў нас, малалеткаў,*
*Яго таемнай працы сведкаў,*
*А сам «сюрпрыз» круціў і слухаў*
*І нават прыкладаў да вуха.*

*...Натомлена буркоча грубка,*
*Я, кіпень сёрбаючы з кубка,*

*Вось-вось, здаецца, разальюю,*
*Ды не пытаю пра сям'ю.*

*Журботна-цёплымі вачыма*
*Глядзіць удалеч дзядзька Фіма.*
*Зноў ажывіў яго ны зрок*
*І жонку і пяцёх дачок.*

*Гадзіннікі навокал цікаюць,*
*Нібыта птушкі ў лесе ціўкаюць.*
*І ў бомах-выбухах, я чую,*
*Зязюля жаласна кукуе.*

*Ласкаваю рукой укрыты,*
*Я сплю да рання, як забіты.*
*Рыпіць за шыбай ранні полаз,*
*Гучыць над вухам дзядзькаў голас:*
*— Не трэба, хлопча, гараваць,*
*Нам трэба дзень перадняваць!*

## За Гомелем людзі ёсць...



*Прыгадаў я зноўку маладосць*
*І начлег казённы на вакзале.*
*— За Гомелем людзі ёсць? —*
*У мяне вандроўнікі пыталі.*
*Рагаталі мужыкі ў чарзе:*
*— Ёсцека, ды дробненькія ўсе...*

*Землякі палескай стараны*
*Жартавалі, мо каб не журыцца,*
*Толькі што вярнуўшыся з вайны,*
*З доўгай і крывавай касавіцы.*
*Я цяпер прызнаюся услых:*
*Быў, бясспрэчна, Мележ сярод іх.*

*І Шамякін браў тады білет,*
*Ды не ў мяккі, нават не ў плацкартны,*
*Каб усім сказаць, чаго ён варты,*
*Гэты дзіўны і складаны свет.*
*Не спяшыў Навуменка Іван,*
*Ён абдумваў першы свой раман.*

*З кулямі варожымі ў нагах,*
*Поўны камсамольскай загартоўкі,*
*Макаёнак нішчыў па начах*
*Першыя ў жыцці аднаактоўкі.*
*І зямляк мой, Сачанка Барыс,*
*Шчэ не ўведаў Штаты і Парыж.*

*Калі раптам нечаканы госць*
*Да мяне ў кватэру завітае:*
*— За Гомелем людзі ёсць? —*
*Жартам па-ранейшаму пытае.*
*І адкажа, толькі пыл страсе:*
*— Ёсцека, ды дробненькія ўсе...*

*Землякі, палескія сыны,*
*Колькі ўсім нам вынесці прыйшлося,*
*Каб да нашай роднай стараны*
*Гэтае пытанне прывілося!*

*Гомельшчына!*
*Выспы і бары.*
*Прыпяць...*
*Сож...*
*Дняпро...*
*Між іх — азёры...*
*Дзе яшчэ сустрэнеце, сябры,*
*Гэтакае шчырасці узоры?*
*Кажуць людзі: чым гаротней доля,*
*Тым бліжэй ты да чужога болю...*

*Рудабелка...*
*Ціхан Бумажкоў,*
*Мазураў і Ціхан Кісялёў,*
*Царыкаў, Ісачанка, Казлоў,*
*Нашы камунары, партызаны,—*
*Вашай славай край аперазаны.*
*Ловіць праўду сёння свет вялікі*
*У дзяржаўным голасе Грамыкі.*

*...Ад'язджае і мне кажа госць:*
*— За Гомелем людзі ёсць!*

* * *



*Вечарэла.*
*Адзін я ішоў*
*Задуменна-пустымі палямі.*
*І абрысы пажоўклых стагоў*
*Уяўляліся мне курганамі.*

*А яны, курганы, ля дуброў*
*Зараслі, аплылі і аселі,*
*Быццам рэха мінулых вякоў*
*Не ўтрымалі ў парэпаным целе.*

*Перазвону мячоў не чуваць,*
*Не відаць ашалелай пагоні.*
*Толькі хмаркі кудысьці ляцяць*
*Па-над імі, як дзікія коні.*

*Колькі я ні вяртаўся дамоў,*
*Колькі ні адлучаўся я з дому,—*
*Не наведаць не мог курганоў,*
*А чаму?*
*Гэта мне невядома.*

*Знаўцы скарбаў сівой даўніны,*
*Таямніцы вякоў адкрывайце.*
*Толькі гэтыя курганы*
*Не чапайце, прашу, не чапайце.*

* * *

*Нахмурыла хата чало,*
*Цяпер яна нібы чужая.*
*Маё гаманкое сяло*
*Маўкліва мяне сустракае.*

*З далёкіх і блізкіх дарог,*
*Не толькі ў святочныя даты,*
*Спяшаўся сюды на парог*
*Я ў стоме да роднае хаты.*

*А сёння, даруй, абміну,*
*Спярша завітаю да чаю...*
*Нясу не гасцінцы — віну,*
*Якую?*
*І сам я не знаю.*

*Як цяжка вяртацца дамоў,*
*Як вусцішна робіцца ў хаце,*
*Калі ты дажыў да грудкоў,*
*Спачылі дзе бацька і маці...*

## Мама

*Я ніколі не прысвячаў маці свае песні,*
*Бо яна была маёй самаю лепшаю песняй,*
*Перад якою нямеюць іншыя...*

*Калі памірае маці,*
*Галасіць пачынаюць:*
*— Даруй мне, мамачка!*
*І жалобна шмыгаюць носам,*
*Атрымаўшы адпушчэнне грахоў.*

*Мая маці*
*Ніколі і нічога мне не даравала.*
*Я ў вачах яе заўсёды чытаў*
*Перажытае і перадуманае мною,*
*Вычытваў нават тое,*
*Што сам ад сябе хаваў*
*У глыбінях памяці сваёй.*

*Нават у далёкай ростані,*
*Калі мне было добра — і ёй было добра,*
*Калі мне было дрэнна — і ёй было дрэнна.*
*Яна ні ў чым мяне не папракала,*
*Але, супакойваючы мяне,*
*Адкладвала на сваім сэрцы*
*Усё новыя і новыя зарубкі.*

*Аднойчы мне стала так цяжка,*
*Што я амаль канаў ад болю.*
*І ёй стала балюча і цяжка,*
*І хворае сэрца яе не вытрымала...*

*Мама перахапіла мой боль,*
*Мама засланіла мяне сабою.*
*І зразумеў я гэта позна,*
*Вельмі позна...*



2 Зак. 2168

* * *

*Праскрыпеў на балоце спрасоння дзяркач,*
*Адгукнулася ў полі журботная каня...*
*Не ўцячэш у жыцці ад няўдач і нястач,*
*Нібы птушка з гняздзечка на зябкім світанні.*

*І калі ты ўчарнеў ад бяды і нуды,*
*І гады надзялілі цябе сівізною,—*
*Прыгадай, што ты некалі быў малады,*
*Нібы першая завязь на дрэве вясною.*

*Быў світанак такі.*
*Быў і ранак такі.*
*Толькі сэрца яшчэ не сціскалі ўспаміны.*
*Як ні дзіўна:*
*Умацоўваюць дрэва сукі,*
*Калі трэба яму адпілоўваць галіны.*

*Ёсць магічнае слова між нас:*
*— Трэба жыць!*
*Хоць няўмольна жыцця падразаецца круча...*
*А дзяркач на балоце скрыпіць і скрыпіць.*
*Спачувае каму*
*Ці самому балюча?*

# Балота



*Кажуць, браце Рыгор,*
*Гэтым летам гарачым*
*Горка плакалі птушкі*
*Над Балотам дзіцячым.*
*Можа, нешта не тое*
*Адчулі ў прыродзе,*
*Можа, душы дзяцей*
*На саракагоддзе*
*Пазляталіся з выраю*
*Незваротнага*
*Да маленства свайго*
*Крывава-гаротнага.*

*Помніш, браце Рыгор,*
*Як у багне куп'істай*
*Нас хавалі матулі*
*Ад сілы нячыстай.*
*Прыязджай,*
*Мы з табою*
*Таксама паплачам*
*Над маленствам сваім,*
*Над Балотам дзіцячым.*

*Колькі нас тут было —*
*Не адкажуць матулі.*
*Іх і нас тут лічылі*
*Варожыя кулі.*
*Асаку падпаліўшы,*
*Смяяліся каты*
*І кідалі ў кустоўе*
*З размаху гранаты.*
*І стагнала дрыгва.*
*І трашчала*
*Лаза.*

*Закіпала*
*На тварах дзіцячых*
*Сляза.*

*І ў пякельным агні*
*На сваю на бяду*
*Птушкі ўспыхвалі*
*На ляту.*

*Багна высахла тут*
*Як ад гора і болю.*
*Ды не высахнуць*
*Вочы матуль анікол.*
*Людзі тут анічога*
*Не сеюць, не жнуць.*
*І штогод*
*Сюды кветкі*
*І цацкі нясуць.*

* * *



*І днём і ноччу на шашы*
*Гудуць натужліва маторы.*
*І мне здаецца: па цішы*
*Цяпер сумуюць нават зоры.*

*Да зыркіх пырскаў уваччу,*
*Што нема ўспыхваюць над светам,*
*Я сам расхрыстаны лячу.*
*Куды лячу?*
*За вамі следам.*

*А можа, гэта вы — за мной?*
*Аглушаны — не разбяруся...*
*Падпёршыся адной нагой,*
*Стаіць узбоч дарогі бусел.*

*І, закінуўшыся крылом,*
*На плынь задымленую гэту*
*Глядзіць, як на металалом,*
*Прыёмшчык стомлены «Чармету».*

* * *

*Збег я ад гарадскога тлуму,*
*Каб у цішы дадумаць думу.*
*Збег ад сям'і і ад сяброў*
*У засень прыпяцкіх лясоў.*

*— Дзень добры,*
*Бераг разагрэты,*
*Ласіны след на сцяжыне!*
*Ні тэлефона, ні газеты*
*І ні транзістара ў мяне.*

*Нарэшце вабная спакуса*
*Хоць трохі збавіцца ад грузу*
*Будзённасці — перамагла.*
*Узмахам пругкага вясла*
*Ганю я чоўнік на зары*
*Куды?*
*На рыбныя віры.*

*А недзе ў небе самалёты*
*Зноў рэжуць ранішнюю ціш,*
*Нібы нагадваючы,*
*Што ты —*
*Сам на кручку трывог вісіш...*

* * *



*Хто ведае, у чым прычына:*
*Як толькі сціхнуць капяжы,*
*Спрадвечны клопат селяніна*
*Вясною селіцца ў душы.*

*Глядзіш на рунь з надзеяй чыстай,*
*А думаеш аб збажыне.*
*І ні міністра, ні таксіста*
*Трывога гэта не міне.*

*Таму што з сейбітаў усе мы,*
*Які б ні быў прагрэсу час.*
*І сутнасць гэтай тэарэмы*
*Жыццё даказвае не раз.*

* * *

*Не хваліся,*
*Што маеш сяброў, як грыбоў*
*У асеннім лесе.*
*Хто з табой*
*Падзяліцца апошнім гатоў,—*
*У сябры не лезе.*

*А засмокчуць*
*Жыццёвыя раптам віры,*
*Абаўюць пакутай —*
*Пазнікаюць сябры,*
*Як грыбы у бары*
*Перад сцюжай лютай.*

*І калі ты адзін,*
*Аслабелы зусім,*
*Шлях свой станеш мерадь,—*
*У дарозе, нарэшце,*
*Сустрэнешся з тым,*
*Хто ў цябе паверыць.*

*Перад ім ты*
*Паклясціся будзеш гатоў:*
*Можна жыць без грыбоў,*
*Нельга жыць без сяброў!*

## Лакаматыўчык манеўровы



*Ён і цяпер жывы-здаровы,*
*Хоць і ўчарнеў, нібыта грак,*
*Лакаматыўчык манеўровы —*
*Таварнай станцыі батрак.*

*Каб магістральны рух шалёны*
*Ні на хвіліну не затух,*
*Зганяе ў гурт ён эшалоны,*
*Нібыта чэрады пастух.*

*І днём і ноччу — грузы, грузы*
*Праз туманы, дарожны дым*
*Ляцяць ва ўсе куткі Саюза*
*І не развітваюцца з ім.*

*Без крыўды ён, лакаматыўчык,*
*Вядзе руплiва свой матыўчык,*
*Апошні выпхнуўшы вагон,*
*Засне, уткнуўшыся ў перон.*

*Яго аркестры не вітаюць,*
*Наперад кветкі — не кідаюць.*
*І кожны на яго крычыць,*
*Калі квартальны план гарыць.*

*Сапе ён, пыхкае натужна*
*І сам сабе прызнацца рад:*
*Як зноў яго забылі дружна,*
*Дык значыць справа йдзе на лад.*

# Адвечная песня

*— Дай, божа, дзетак, а дзеткам — долю,—*
*Напявала маці першынцу ў прыполе.*

*Маці напявала і сама не знала,*
*Што яе і сына у жыцці чакала.*

*Нават каб сказалі, што чакае пекла,*
*Маці б у адчаі ад дзіця не ўцекла.*

*Чэзнуць самаўладцы, троны і кароны,*
*Дынамітам пахне часу бег шалёны,*
*І крычаць праpокі, магі, хіраманты,*
*Што планета хутка разляціцца ў транты.*

*Ды ў трывожным свеце, напаўзвар'яцелым,*
*Як ад злога вока, захінуўшы целам:*

*— Дай, божа, дзетак, а дзеткам — долю,—*
*Напявае маці першынцу ў прыполе...*

# І што ім трэба ад мяне?



*Ён жыў і шанаваў законы,*
*І да ўсяго быў падазроны.*
*І на інтрыгі між размоў*
*Не траціў розуму і слоў.*
*Сачыў, калі і як хто гляне,*
*Хто хваліць, ганіць ці кляне.*
*І задаваў сабе пытанне:*
*— І што ім трэба ад мяне?*

*Яго дзяўчына пакахала,*
*Нябога думаў доўга-мала:*
*Яна ж свабоду праглыне!*
*— І што ёй трэба ад мяне?*

*Сяброўка ў дзеўках не хадзіла,*
*Другому дзетак нарадзіла.*
*Шчаслівай бачыў ён яе:*
*— Вось што ёй трэба ад мяне!*

*Не шкадаванне, не пакуты,*
*А радасць ад таго, што путы*
*Свайго кахання разарваў,*
*Ён у той момант адчуваў.*

*Вісіць над ім яго пытанне,*
*Як прывід самазахавання.*
*Хай нават прыйдзе смерць з касою,*
*Яна яго не зварухне.*
*Ён буркне, тупнуўшы нагою:*
*— І што ёй трэба ад мяне!*

## Аэробіка

*Ці з пенсійнаю кніжкаю ты,*
*Ці з універсітэцкім ромбікам,*
*Ці стары ты, ці малады —*
*Займіся, дружа, аэробікай.*

*Вунь мой Кузьміч, дарагі сусед,—*
*Не пазайздросціш такому факту,—*
*Бег за здароўем штораніцы ўслед,*
*Дабегаўся ж — да інфаркту.*

*Толькі вычаўраў ад бяды —*
*У бога здароўя не кляньчыць.*
*Штораніцы, як стрыгунок малады,*
*Пад музыку дома танчыць.*

*Рытмы сучасныя не прызнае,*
*Як і дыэты ніякай.*
*Мацуе мускулы ён свае*
*«Яблычкам» і «Сербіянкай».*

*Неяк лобзіка я запытаў,*
*Мой загубіўся-згінуў.*
*Кузьміч галавой на падлогу стаў*
*І ногі ў бакі раскінуў.*

*Вядома, нагамі стаяць дагары*
*Не кінецца кожны з ахвотай.*
*За голаў хапаюцца дактары,*
*Кузьмічыха плача ўпотай.*

*Унукі ў здзіўленні на дзеда глядзяць,*
*Як на з рэстаўрацыі лапаць...*
*І раптам пайшлі разам з дзедам скакаць,*
*Бо з бабкай не хочацца плакаць.*

## Вяртанне з бежанцаў

Балада

*Дамоў вярталіся мы з выгнання.*
*Салдаты нас у дарозе кармілі.*
*Дзякуй вам, добрыя лескавічане,*
*Што ў акупацыі прытулілі.*

*Што ў сорак чацвёртым, зімой марознай,*
*Дзяліліся ўсім, чым можна дзяліцца.*
*Дамоў вяртацца ніколі не позна,*
*Ды Ляскавічы доўга нам будуць сніцца.*

*На прыпяцкай кручы нас маці спыніла:*
*— Вёсцы ў пояс пакланіцеся, дзеткі!*
*І вёску здалёку перахрысціла:*
*— Дай божа сюды зноў вярнуцца ў адведкі...*

*Мяне і зараз пякуць тыя слёзы,*
*Што ў маці навек у вачах застылі.*
*І зараз бачу тыя бярозы,*
*Дзе мы не ляжым у брацкай магіле.*

*Дзякуй вам,*
*Добрыя лескавічане,*
*Палешукі,*
*Пабрацімы,*
*Зямляне!*
*Дамоў вярталіся мы з выгнання,*
*Што наша доля дома застане?*

*У Петрыкаве нам сказалі,*
*Каб мы бацьку свайго не чакалі.*
*У Калінкавічах удакладнілі,*
*Што пад Кіевам бацьку забілі.*
*А ў Гомелі на вакзале:*
*— Прыязджаў ён,— людзі казалі.*

*Прыязджаў,*
*Гараваў,*
*Распытваў,*
*Дзе ты, Дамініка, і дзеці.*
*А хто адкажа?*
*Вайна, як сіта,*
*Людзей рассеяла па белым свеце...*

*Дамоў мы вярталіся.*
*А бацька з дому*
*Зноў вяртаўся на перадавую.*
*Год яшчэ будзе яму невядома,*
*Ці ўбачыць дзетак і жонку жывую.*

*Потым прыйдзе ён, год сорак пяты.*
*І бацька прыйдзе чэрвеньскім поўднем.*
*Як вераб'і, мы выпырхнем з хаты,*
*Бо салдатам бацьку свайго не помнім.*

*Будзем праз вокны глядзець дзікавата*
*З трывожнай цікаўнасцю недзіцячай,*
*Як абдымае маці салдата,*
*Як ён перад ёю маўкліва плача.*

## Напярэдадні



*Дзяцей на свята Першамая*
*Матуля ў хаце не ўтрымае.*

*І вось бягу я, сонцу рады,*
*Упрыскач вулкай басанож,*
*Каб глянуць, як паўзе на грады*
*Разлівісты вясновы Сож.*

*Уся загадкавасць паводкі*
*Сплыла, нібыта першы гром,*
*Калі убачыў я:*
*Да лодкі*
*Дзяцюк на гаць ідзе з вяслом.*

*Рыпелі хромавыя боты,*
*Ажно трашчала цішыня.*
*І дзядзька з гаці*
*у балота*
*Мяне спіхнуў, як жабяня.*

*Вачыма зыркнуў.*
*Усміхнуўся.*
*Пайшоў.*
*Назад не азірнуўся,*
*Хоць я крычаў і трапятаўся,*
*За колкае галлё чапляўся.*

*І толькі выпаўз я на гацьку,*
*Скаваў мяне халодны жах:*
*Убачыў я другога дзядзьку,*
*Той ледзь трымаўся на нагах.*

*Блішчэлі, як талеркі, вочы,*
*Сабе пад нос ён нешта гуў.*

*Я паміж ног яго праскочыў,—*
*І ён з дарогі не звярнуў.*

*...На печы дзед мяне суцешыў*
*І стаў маўклівы, як сцяна.*
*Было ўсё гэта ў сорак першым,*
*Наперадзе была вайна.*

# Сцяна



*Дажывае свой век паліцай,*
*Ды світанкаў дагэтуль баіцца.*
*Закрывавіцца небакрай —*
*Паліцаю чамусьці не спіцца.*

*Адзвярэў...*
*Адсядзеў...*
*Адрабіў...*
*І дзяцей сваіх вывеў у людзі.*
*А падумае: нібы не жыў,*
*І жыцця ўжо другога не будзе.*

*Быццам камень на шыі — віна.*
*І не стрэсці з душы непакою.*
*І шчарбатая сніцца сцяна.*
*А пад ёй..*
*А пад ёй...*
*А пад ёю...*

*У вачах у вяскоўцаў — дакор.*
*І няма, пэўна, большае кары,*
*Як адчуць, што жывы ты памёр*
*І ратунку не просяць ахвяры.*



3 Зак. 2168

# Прыроды вечны рухавік

*Трывожыць тайнай маладзік,*
*Схадок — журботнасцю сівою.*
*Прыроды вечны рухавік*
*Працуе летам і зімою.*

*Няўжо дарэмна тарахціць*
*Ён у касмічным падарожжы?*
*Няўжо нейтронкаю накрыць*
*Яго вар'ят якісьці можа?*

*Няўжо, калі мы аджывем*
*І на планету мор нахлыне,*
*Да новых сонечных сістэм*
*Падключыцца і нас пакіне?*

*Пазначыўшы, што тут жылі*
*Таленавітыя стварэнні,*
*Але яшчэ недараслі*
*Да узаемаразумення.*

# Пагранічча



*Разгайдаўшы успаміны,*
*Цераз Сож прыбег у госці*
*Свежы вецер з Украіны,*
*Свежы вецер маладосці.*

*Толькі бор нам быў за сведку*
*Ды ў нябёсах цёмных зоркі,*
*Як хадзілі мы ў адведкі*
*Да ўкраінак на вячоркі.*

*Як ад парубкаў раўнівых*
*Іх сяброўак выкрадалі*
*І на бераг свой,—*
*шчаслівых,—*
*На чаўнах перапраўлялі.*

*А насустрач,—*
*як пушынку,—*
*Беларускую дзяўчыну*
*У абранніка ў абдымках*
*Везлі хлопцы на Ўкраіну.*

*І збіралася, вяселлі,*
*Што і там і тут шугалі,*
*Як высокія арэлі,*
*Нашы берагі злучалі.*

*І ні ўпіцца, ні пабіцца.*
*Хто свой род тут ганьбіць стане?*
*Хто парушыць тут граніцу*
*Нашай дружбы і кахання?*

* * *

*Андрэю*

*Калі жывуць яшчэ бацькі,*
*Заўсёды знойдзеш ты прытулак.*
*Яны — твой тыл і паратунак,*
*Калі жывуць яшчэ бацькі.*

*Для іх заўсёды ты — дзіця.*
*Яны суцешаць і ўратуюць.*
*І на сувой твайго жыцця*
*Свайго жыцця не пашкадуюць.*

*І там, за далеччу гадоў,*
*Дзе ім не быць з табою разам,*
*Святая іхняя любоў*
*Асвеціць шлях твой цяжкім часам.*

*І трэба, мабыць, гэтак жыць,*
*Шануючы сваю Айчыну,*
*Каб мог і сын твой паўтарыць,*
*Свайму у будучыні сыну:*

*«Калі жывуць яшчэ бацькі,*
*Заўсёды знойдзеш ты прытулак.*
*Яны — твой тыл і паратунак,*
*Калі жывуць яшчэ бацькі».*

* * *

*Хадзем, Алеся, ў Лаб'які,*
*У маладзенькі бор сасновы,*
*Дзе ўжо шныпораць грыбнікі,*
*Твае аднолеткі*
*І ўдовы.*

*Там, на ваенным рубяжы,*
*Ніколі рэха не цішэ.*
*Не зарастаюць бліндажы,*
*Не абсыпаюцца траншэі.*

*Нібы, спыніўшы часу вал,*
*Прырода на крутым узлессі*
*Пакінула мемарыял*
*Для вас, такіх, як ты, Алеся.*

*Хадзем, Алеся, ў Лаб'які,*
*Ты здагадаешся,*
*я знаю,*
*Чаму старыя там жанкі,*
*Збіраючы баравікі,*
*Ніколі песень не спяваюць.*

* * *

*Генадзю*

*Па гэтай месячнай сцяжынцы*
*За выгінастаю лукой,*
*Набраўшы ў горадзе гасцінцы,*
*Плылі дадому мы з табой.*

*За бортам хвалі лапаталі,*
*Ныралі зоркі аж да дна.*
*Бацькі святло не выключалі,*
*Яны заўсёды нас чакалі*
*У цёплай хаце давідна.*

*У борт зноў б'е быстра тугая,*
*Іскрацца кроплі на вясле.*
*Ніхто цяпер нас не чакае*
*У пачужэлым нам сяле.*

*Маўкліва і падслепавата*
*Праз вокны цёмныя свае*
*На нас глядзіць з дакорам хата,*
*Але прытулак нам дае.*

*Без нас ізноў яна астыне,*
*Адна застаўшыся з журбой,—*
*І гаспадар, і гаспадыня,*
*І сірата, як мы з табой.*

* * *



*Жыццё кароткае.*
*Але*
*Яго мы самі скарачаем*
*Віном,*
*Цыгаркай,*
*Нават чаем,*
*Калі штодзень ён на стале.*

*Што скарачае нам жыццё?*
*Хто нам выкручвае вантробы?*
*Злаcліўцаў сіплае выццё,*
*Нелітасцівыя хваробы.*

*Ад лёсу, браце, не ўцячэш.*
*Прад ім не падай на калені,*
*Калі заўсёды ты жывеш*
*У згодзе са сваім сумленнем.*

*І ў безвыходнасці цяжкой*
*Да ран хай думка прыгарнецца,*
*Што ў добрай памяці людской*
*Ад нас хоць нешта застанецца.*

* * *

*За сакавіцкімі завеямі,*
*Нібы за прывіднай сцяной,*
*Ужо вясна махае веямі.*
*І пахне сцяты свет зямлёй.*

*То ціўкне птушачка азяблая,*
*То зашархоча з даху снег,*
*То дрогка страпянецца яблыня,*
*То пырхнуць вераб'і са стрэх.*

*І сонца кволенькае коціцца*
*Увысь, на небасхіл круты,*
*І сэрца гэтак не маркоціцца,*
*Як у былыя халады.*

*Званчэюць галасы дзіцячыя,*
*Задумна шэпчуцца лясы.*
*Былі,*
*Сплылі,*
*Не перайначылі*
*На свой капыл нас маразы.*

## Павадырок



*Па вуліцы пустой вясковай*
*Пасляваеннае пары*
*З жалобнай песняй адмысловай*
*Брылі сляпыя гусляры.*

*Наперадзе цяжкой хадою,*
*Трымаючы ў руках кіёк,*
*З вялізнай торбаю пустою*
*Ішоў малы павадырок.*

*Відаць, бацькоў вайна скасіла,*
*Што выпаў лёс яму такі.*
*Якая б маці адпусціла*
*Сваё дзіцятка ў жабракі?*

*У гурце тым,*
*Ад пылу шэрым,*
*Худых, ахрыплых гусляроў,*
*Глядзеў ён з сумным недаверам*
*На нас,*
*Вясковых гайсуноў.*

*Слязіліся ў малога вочы,*
*Ён і не ведаў, і не знаў,*
*Што нам таксама лёс сірочы*
*Кавалка сытага не даў.*

*А з хат выходзілі жанчыны*
*Сустрэць няпрошаных гасцей,—*
*Выратавальніцы дзяцей —*
*Выратавальніцы Айчыны.*

## Салдацкая шапка

*Стаю адзін я*
*Над магілай брацкай,*
*Дзе нахілілі*
*Галавы вяргіні*
*У роздуме*
*Над доляю салдацкай,*
*Калі народу цяжка*
*І Айчыне.*

*Мне бачыцца*
*Далёкі сорак трэці*
*І свежы жвір*
*Васкова-жаўтаваты.*
*Глядзяць жанкі самлелыя*
*І дзеці:*
*Сяброў хаваюць*
*На грудку салдаты.*

*Іх камандзір*
*Прыгорблены і чорны,*
*Штоноч кашляў*
*У ацалелай хаце,*
*Сказаў,*
*Калі салют аціх*
*Няспорны:*
*— Забітых шапкі*
*Дзецям перадайце!*

*І вось бягу,*
*Задыханы, ў зямлянку,*
*І млеюць ногі*
*У знямелай скрусе.*
*Трымаю*
*Я ў руках сваіх вушанку,*

*Але надзець*
*На галаву баюся...*

*Калі размовы*
*Сённяшнія чую,*
*Дзе адхапіць бы*
*Пыжыка па блату,—*
*Па той,*
*Салдацкай шапцы*
*Я сумую,*
*Што колькі год*
*Служыла мне і брату.*

## Адказ вучонага

*— Ці пранясецца*
*Над нашай планетай*
*Агонь спапяляльны*
*Трэцяй сусветнай? —*
*Спыталі ў Энштэйна людзі.*

*Вучоны падумаў,*
*Сказаў з журботай:*
*— Адно я знаю:*
*Сусветнай чацвёртай*
*Вайны ніколі не будзе!*

*Спазнаў ён і славу,*
*Спазнаў і праклёны,*
*Але не зрабіўся*
*Хлусам вучоны.*

* * *



*Гляджу ўслед выраю гадоў,*
*Што ўжо не вернуцца з дарогі...*
*Вузее круг маіх сяброў,*
*Шырэе круг маёй трывогі.*

*Я не адзін такі дзівак.*
*Сваё абпальваючы крылы,*
*Рабіць не тое і не так*
*Чамусьці ў нас хапае сілы.*

*І на жыццёвым віражы,*
*Адчуўшы раптам стому ў целе,*
*Усведамляеш:*
*І ў душы*
*Таксама струны аслабелі.*

*Аднак не трэба шкадаваць,*
*Сваю гаці на свеце гаць,*
*Перамагай адчай халодны,*
*Пакуль гады не адляцяць*
*У вечны вырай незваротны...*

* * *

*Як агорне смутак без прычыны,*
*Пабрыдзеш няўцямна нацянькі...*
*У кустах шчаслівы смех жанчыны*
*Я пачую на беразе ракі.*

*І ў мяне затахкала пад сэрцам*
*Раптам сарамлівая віна:*
*Так адна жанчына не смяецца,*
*Вабіць так абранніка яна.*

*Хто ён — ласунец ці закаханы?*
*Гэтага не знаю, не скажу.*
*Ласкаю няўцерпнай ці падманам*
*Ён скарыў жаночую душу?*

*Пах гаркавы палыной вячэрніх.*
*Непатольных, сыценькіх надзвіў,*
*Я і сам не раз красунь нявёрных,*
*Нібы дзікіх качак, тут лавіў.*

*Селезням далёкім на пацеху*
*Пёркі доўга чысцілі яны.*
*Толькі я не чуў такога смеху*
*І не адчуваў такой віны.*

*І цяпер гучыць ён як адплата*
*За мае мінулыя грахі.*
*Над чыім каханнем сёння здрада*
*Коршакам апісвае кругі?*

## Апякун



*— Рабочы клас*
*Не зразумее нас! —*
*Ён паўтараў*
*Бяздомным інжынерам.*
*А сам рукамі*
*Блатнякоў-пралаз*
*За горадам*
*Сабе узводзіў церам.*

*Яго не зразумеў*
*Рабочы клас:*
*Няма таго апекуна*
*Між нас.*

## Цыганскія песні

*Я рос у глыбокай*
*Палескай лясной старане.*
*І ў сэрцы заўсёды*
*Мелодыю чую лясную.*
*Чаму ж так хвалююць*
*Цыганскія песні мяне,*
*Як толькі дзе-небудзь*
*Я іх у дарозе пачую?*

*Мяцежна-трагічны*
*Захопіць адразу іх дух,*
*Напоўнены смуткам балючым*
*І прагаю волі.*
*І цесным падасца*
*Жыццёвы твой ціхі катух,*
*Мышынай нарою*
*У вечна квітнеючым полі.*

*Няўжо, каб не зпікнуць*
*І не растварыцца ў вяках,*
*У песню, бы ў сховішча,*
*Збегла цыганская мова?*
*Але не застыла бетонкай*
*Яна на былых бальшаках —*
*Струменем крынічным*
*Бруіцца яна пажыццёва.*

*Усе мы — шукальнікі шчасця.*
*Усе мы ў душы цыганы.*
*Іх песні трывожна*
*Над нашаю доляй лунаюць.*
*Няўжо генетычную памяць*
*Маю абуджаюць яны*
*І прашчуры імі*
*Сігналы свае пасылаюць?*

*Каб ведалі мы,*
*Што не згоніць ніколі народ*
*У нераты забыцця*
*Паводка асіміляцый,*
*Пакуль яго песні*
*Ляцяць і ляцяць у палёт,*
*Нібы сувязныя,*
*Да іншых народаў і нацый.*



4 Зак. 2168

* * *

*Забудзем спрэчкі і размовы.*
*Хай стома з сэрца там спадзе,*
*Дзе цяжкакрылыя дубровы*
*Стаяць па пояс у вадзе.*

*Хіснецца душагубка-лодка,*
*Уратаваная ад крыг.*
*Няхай адмые нас паводка*
*Ад смогу вуліц гарадскіх.*

*Нам позна долю перайначыць.*
*Без нас тут дзічкам зноў цвісці.*
*Але так хочацца убачыць*
*Усё, што страчана ў жыцці.*

*Напэўна, любая, бяда ўся*
*Маіх пралікаў, дробных спраў,*
*Што я ад вёскі адарваўся*
*І родным гораду не стаў.*

*У зацішку густых акацый*
*Нам не задрэмлецца з табой,*
*Як у чаканні адаптацыі*
*Пасля бязважкасці цяжкой.*

## Возера



*На альсах ёсць возера адно:*
*Дно і ў ясны поўдзень не відно.*

*Пад гарою там крыніца б'е.*
*Сцерагуць бабры хады свае.*

*Між лапушша ходзяць шчупакі,*
*Грэючы азяблыя бакі.*

*Гэткай цудадзейнае вады*
*Не страчаў нідзе ніколі ты.*

*Зверху — нібы цёплы сырадой,*
*А глыбей — як лёд халодны той.*

*І калі распараны нырнеш,—*
*Нібы ў маразільню пападзеш.*

*А пасля, скажу я вам, пасля,*
*Як пакінеш цёмныя глыбіні,*
*Зробішся бязважкім спакваля*
*У абдымках нерухомай плыні.*

*А калі яшчэ крынічнай збан*
*Нашча ты кульнеш, без пачастунку —*
*Пругкім станеш, як тугі качан,*
*Пругкім звонку і тугі са шлунку.*

*І пад дубам, слухаючы ціш,*
*Здзіўлена абмацваючы цела,*
*Ты адчуеш, што яшчэ рыпіш,*
*Што душа твая памаладзела.*

## Прафілакторый

*Гарыць вячэрняя зара*
*Над Сожам і над цёмным плёсам.*
*І зоркі звон і камара*
*Чуваць у свеце шматгалосым.*

*Падфарбаваная смугой,*
*Над кручай ад расы сівее*
*Званіца цэркаўкі нямой,*
*Што ў рыштаваннях трухлявее.*

*Яшчэ не сціхнуў за ракой*
*Прафілакторыйскі дынамік,*
*Дзе масавік гасцей гадамі*
*Частуе імпартнай журбой.*

*Увесь яго рэпертуар*
*Над кручамі крутымі Сожа*
*На памяць завучыў абшар,*
*На шчасце, паўтараць не можа.*

*Аднойчы пеўнік малады*
*Задачку цяжкую курам даў:*
*Не кукарэкнуў, як дзяды,—*
*Спрасоння закрычаў: — Карамба!*

*Ахвярай стаўшы модных згуб,*
*Не навучыўшыся кумекаць,*
*Адразу ж ён папаў у суп,*
*Каб глупства больш не кукарэкаць.*

*Што дзіўна:*
*Гэты масавік,—*
*Ён гасцяваў у вёсцы часам,—*
*Хваліў наварысты крупнік*
*За натуральнасць паху мяса.*

## Скаргі



*На чукалках-выбоінах я ўзмок.*
*Быў самы вільчык лета.*
*Я кіраваў на хутарок,*
*Каб у горад перавезці паэта.*

*Ён там на вышках загасцяваў,*
*На сене з духам мядовым.*
*Вершы пісаў і скаргі слаў*
*У высокія ўстановы.*

*Аб тым, што талент зусім зачах,*
*Што жыве на чужых харчах,*
*Што нідзе яго не друкуюць,*
*Толькі ведаюць — крытыкуюць.*
*Што нідзе ў яго, блукара,*
*Няма ні кала ні двара.*

*Таленты трэба расціць, вядома,*
*Каб сягалі ў творчыя высі.*
*Мне пазванілі з высокага дома,*
*Сказалі:*
*— Едзь, разбярыся!*

*Тут пашыраецца Каршукоў,—*
*Бясконцы наш клопат хатні,—*
*Хай засяляецца на пару гадкоў*
*Як жа яго там?*
*Фатнеў!*

*Чыталі, чыталі.*
*Піша багата.*
*Але аптымізму ў яго малавата.*
*І нейкі завужаны кругагляд.*
*Словам, вяртай яго ў горад назад.*

*Хай падумае, абжывецца,*
*Можа, тады весялей запяецца...*

*І вось я трасуся па бальшаку*
*На газіку ў пыле і поце.*
*Раптам бачу: узнімае руку*
*Мужчына на павароце.*

*— Да Дзятлавіч,—*
*просіць мяне,—*
*Падвязеш?*
*Тут кіламетраў дзесяць.*
*Па гэтым пяску марудна брыдзеш,*
*Ногі ледзь прысак месяць.*

*— А як жа! — адказваю.—*
*Падвязу!*
*Мужчына з палёгкай смяецца:*
*— Можа, ў дарозе пад колы лазу*
*Разам цягаць давядзецца.*

*Зноў падарожны пыл запяршыў,*
*Дзядзька адхекаўся, закурыў.*
*І праз якіх там пятнаццаць хвілін*
*Ён быў мне, як бацька, яму я — як сын.*

*Пра гэта я ведаў яшчэ і раней:*
*Заўсёды дарога яднае людзей,*
*Не тая, што жартам гавораць: як лоб,*
*А тая, дзе ўся — за калдобам — калдоб.*

*Дзядзька наогул не быў гаваркі.*
*Што зробіш, і сам я, напэўна, такі.*
*Аднак пацікавіўся:*
*што за планіда*
*У горад вадзіла яго, інваліда?*

*Дзядзька рукою махнуў:*
*— Не кажы!*
*Хоць ты самому ўжо скаргі пішы*
*Пра тое, што скаргамі заваліў*
*Інстанцыі розныя наш тут адзін.*

*І едуць камісіі розныя, едуць,*
*Ні павячэраць табе, ні паснедаць,*
*Ніяк не ўсталюецца ў вёсцы зацішша,*
*Бо ён усё піша...*
*Бо ён усё піша...*

*То шыферу трэба, то цэглы, то лесу,*
*То адшукае пралікі прагрэсу.*
*— Я,— кажа,— ніколі не буду маўчаць,*
*Прывык я «изъяны изобличать».*

*І летам гарачым, і сцюжнай зімою*
*Возімся ўсе з ім, нібы са скулою.*
*Ледзь што не па ім, то ён прэ на таран:*
*— Я, кажа, мінулай вайны ветэран!*

*Як быццам усе мы вайну тут праспалі,*
*Як быццам мы з ворагам не ваявалі,*
*Нібы пагарэлі не нашы тут хаты,*
*Нібы ўсе ў жывых — партызаны, салдаты.*
*Вунь, колькі вякуе удоў у салдатках.*
*Хто ім дапаможа ў парэпаных хатках?*
*Калі састарэлым ім не дапаможам,*
*Як глянуць сумленна у вочы ім зможам?*
*А гэты штукарыць, а гэты — грабе*
*І справа і злева і ўсё пад сябе.*

*Вось зноў напісаў, што не далі каня*
*Яму звезці сена. А я — старшыня*
*Не, не калгаса, а сельсавета.*

*Ён напісаў — я ў адказе за гэта.*
*Што зробіш, як кажуць, закон ёсць закон.*
*Вазіў тлумачальную сёння ў раён.*
*Вядома, гуманны і добры наш лад,*
*Але і праблем жа тут многа,*
*Калі крыкуна-аглаеда такога*
*Не можа ніхто асадзіць з нас назад.*
*Сапраўдны герой — хто заўжды ў барацьбе,*
*Не будзе ў народа сядзець на гарбе!*
*Я слухаў балючую споведзь. Маўчаў.*
*І газік па зжоўклых выжарынах гнаў,*
*І думаў пра тое, што часта і сам*
*Дапамагаў вось такім крыкунам.*
*А той, у каго сапраўды набалела*
*І для падтрымкі наспела пара,*
*Па завядзёнцы народнай нясмелай*
*Свой боль не наніжа на кончык пяра.*
*Яго пры імклівым руху няможна*
*Нам прамінуць, нібы знак дарожны.*
*Бо гэты нястрымны, калдобісты рух*
*Злучае ўсіх нас у жыццёвы ланцуг.*
*Дзе аслабелае лопне звяно —*
*Болем праніжа ўсіх нас яно.*
*Хай не сціскаюцца мускулы ў целе:*
*Не паспяшаліся...*
*Недагледзелі...*

*А як жа паэт?*
*Перавёз я паэта.*
*Аўтограф мне свой ён пакінуў за гэта.*

## Помнік



*Дыктатар мікрадзяржавы*
*Перад тым як сканаў,*
*Ад свербу прыўднай славы*
*Помнік сабе рыхтаваў.*

*Сам прыкінуў эскізы,*
*Праект ухваліў свой сам.*
*І — разасланы візы*
*Лепшым у свеце майстрам.*

*Але не ўлічыў ён штосьці:*
*Мішурацца і ўладары.*
*Не йдуць і не едуць госці —*
*Лепшыя ў свеце майстры.*

*Збіўшы настрой манікальны,*
*Які яго гнёў даўно,*
*Зірнуў ён са спачывальні*
*На плошчу ў бронеакно.*

*Залапаталі бровы,*
*Як ад містычных праяў:*
*Там яго шматметровы*
*Помнік ужо стаяў.*

*Было ўсё, як на паперы,*
*Дыктатара ж сцяў адчай:*
*Цень вялізнай сякеры*
*Крывавіўся з-за пляча.*

*І як халуі не збівалі*
*Яго штоночы, штодзень,*
*Як помнік той не знішчалі —*
*Дагэтуль крывавіцца цень.*

# Коні

*За цыганам пасуцца коні.*
*На спадзе ліпеньская ноч.*
*Нібы не бачыў я ніколі*
*Іх мудрых і журботных воч.*

*Нібы не чуў я іх іржанне,*
*І пругкі тупат касяка.*
*Не прыпадаў у хваляванні*
*Да цёплай грывы лашака.*

*Рыпіць,*
*Хрумсціць трава густая.*
*Зары світальнай след прачах.*
*І спадарожнік пралятае*
*Над імі, як далёкі птах.*

*І коні, ўскінуўшы галовы,*
*Стрыгуць вушамі чуйна ціш...*
*Ты пашкадуй іх, век суровы,*
*Не стаў на іх жалезны крыж.*

*Ты бачыш сам:*
*Твой шлях не гладкі*
*І нешта дзеецца не так —*
*Разводзяць коннікаў нашчадкі*
*Цяпер пародзістых сабак.*

*Каня*
*Не ўсцягнеш у кватэру,*
*Прастора*
*Волю дасць каню...*
*Але пакінь ім на вячэру*
*І мірны луг,*
*І цішыню.*

# Чайка



*Цішыня палескіх рэк.*
*У смузе світальнай — нівы.*
*Я раўнінны чалавек*
*І, напэўна, муж раўнівы.*

*Я нагор'яў не шукаў —*
*Па душы — лясоў аблога.*
*Я ў прадонні не штурхаў*
*І ніколі і нікога.*

*А калі куляўся сам*
*Часта ў рэўнасці пякучай,*
*Верыў прыпяцкім лясам*
*І дняпроўскім стромкім кручам.*

*Ціхамірнасць і спакой*
*Па-над полем,*
*Па-над рэчкай.*
*Ты кругляеш нада мной,*
*Нібы чайка без гняздзечка.*

*Годзе, годзе шчыраваць,*
*Церабіць старыя раны.*
*Чайку трэба кальцаваць.*
*Я ж даўно акальцаваны.*

# Латарэйны білет

Сучасная казка

*Патрацiўся з пенсii дзед*
*На латарэйны білет*
*І выйграў, жартуючы неяк,*
*«Волгу» за трыццаць капеек.*
*Рады дзед, рада баба,*
*Рада курачка раба.*
*І суседзі таксама рады,*
*Кінулі палоць свае грады,*
*Абступілі бабу з дзедам.*
*Уся кантора калгасная з сельсаветам*
*Таксама прыбегла ў госці:*
*— Неверагоднае штосьці!*

*Прыляцеў селькор на мапедзе,*
*Сказаў, што тэлехроніка едзе,*
*Што трэба дзеда прыадзець,*
*Будуць жа тысячы людзей глядзець,*
*Не, не тысячы, а ўвесь свет*
*Хто — на дзеда, хто — на білет.*
*Замітусілася грамада.*
*Сенцы, хату памылі, прыбралі,*
*Абед зварылі-нарыхтавалі.*
*Яднае нас радасць, не толькі бяда.*
*Нават сам старшыня калгасу,*
*Што ў дзедавай хаце не быў ні разу,*
*Прыслаў брыгаду цесляроў,*
*Каб хата дзеда між двароў,*
*Паміж дагледжаных дамоў*
*Не выпіралася бяльмом.*
*І што не мог адзін зрабіць*
*За шмат гадоў той дзед,—*
*Цяпер зіхціць, цяпер блішчыць,*
*Як выйгрышны білет.*

*А калі расшумелася прэса,*
*Тэле і радыё затрубілі калі,*
*Уявіў сябе дзед, дзеля інтарэса,*
*Генералам на белым кані.*

*Бачыш, думае, ваяваў, гараваў,*
*Часта ў жыцці было горка.*
*А цяпер папулярным стаў,*
*Як тая кіназорка.*

*А вось і госці здалёку і зблізку*
*Дзеду кланяцца сталі нізка.*
*Усе ветлівыя, практычныя.*
*— Прадай,— кажуць,— дзед,*
*Білет за «наличные».*
*Падносяць віна імпартнага шклянку,*
*Не перастаючы ўсміхацца:*
*— Ты сваё ў вайну ад'ездзіў на танку,*
*Дзе табе на аўто катацца...*

*І сын, што з'ехаў у краі далёкія,*
*Дзе праца не пыльная, а заробкі высокія,*
*Што дамоў не пісаў лістоў,*
*Раптам адбіў тэлеграму дзеду:*
*«Еду!»*

*Дзед нават дыхаць пачаў часцей,*
*За дзень прымаючы столькі гасцей.*
*Адчувае:*
*Зусім хутка зваліць змора.*
*Выйгрыш — на шчасце, а можа — на гора?*

*Да раніцы з бабаю раіўся дзед*
*І на пошту патупаў з палёгкаю неяк.*
*— Вазьміце,— кажа,— ваш латарэйны білет,*
*Давайце назад маіх трыццаць капеек...*

* * *

*Лячэбная палата не для свята,*
*Але хвароб не выбірае дата.*

*І вось на мне казённая піжама*
*Зліnялыя і куцыя штаны.*
*Убачыла б мяне такога мама,*
*Здзівілася б:*
*— На што табе яны?*
*Ты прыадзенься і прыхарашыся,*
*Ідзі з сям'ёй цярпліваю сваёй*
*У людны парк, дзе асвятляюць высі*
*Салюты надвячоркавай парой...*

*Калі да ложка мулкага прыкуты,*
*Не утрымаць, як кажуць, хвост трубой.*
*Не ўбачу я святочныя салюты,*
*І не пабачу маму я жывой.*

*Свет звузіўся да сектара акенца.*
*А думаў я: мой — неабсяжны свет.*
*І стаў я палахлівым акружэнцам*
*Усіх сваіх*
*Хвароб,*
*Нягод*
*І бед.*

*Я цяжка так шчэ не хварэў ні разу,*
*Хаця нялёгкі на плячах нёс груз.*
*Жыццё, падкінь трываласці запасу,*
*Ці падсілкуй мой энергарэсурс.*

*Калі ж, нібы дзіравую даёнку,*
*Ты выкінеш мяне у небыццё,*
*То не забудзь маіх дзяцей і жонку,*
*Братоў самотных падтрымай, жыццё!*

## Паўлюку Трусу



*Кветкі на магіле Паўлюка.*
*І цячэ насуперак нягодам*
*Тут людзей маўклівая рака,*
*Што завецца коратка: народам.*

*Тут і я, ціхмяны беларус,*
*Што прапах з маленства*
*Жорсткім жвірам.*
*Дык давай рассцелім свой абрус,*
*Памянём паэта словам шчырым.*

*Памянём паэта.*
*Памаўчым.*
*У душы не крыўдзячы нікога.*
*Вельмі многа мы ў жыцці крычым,*
*Вельмі рэдка слухаем другога.*

*З думаю пра вечнасць і пра смерць,*
*Грабучыся шляхам камяністым,*
*Вельмі проста змалку ачарсцвець,*
*Вельмі цяжка быць*
*Крыштальна чыстым.*

*На падмурку — вечна маладым*
*З песняю сваёй высакароднай*
*Ты ім быў, і ты застаўся ім*
*У высокай памяці народнай.*

# Пераварот

*І сказаў адмірал генералу:*
*— Не трэба нацыянальнага аўралу.*
*Не бойся слова «пераварот».*
*Пераварот —*
*гэта ўлады кругазварот,*
*Пакуль не ачухаўся народ*
*І нас не ўсцёг на эшафот.*

*А народ ачухаецца пакуль —*
*Мы пад матыў мілагучненькі*
*Падкормім яго чэргамі куль*
*І зашчоўкнем наручнікі.*

*Не дужа важна, якая дзяржава,*
*Важна, якая ў дзяржавы слава.*
*А там, дзе слава —*
*і праўда там,*
*І справядлівасць, вядома.*
*Дакажам ворагам і сябрам,*
*Што гаспадары мы дома!*
*Што робіцца ў свеце?*
*Свет насміхаецца,*
*Нацыя наша, маўляў, выраджаецца*
*Не маючы голасу і правоў...*
*Трэба асвяжыць ёй кроў!*

*— А хто з нас прыйдзе да ўлады? —*
*Спытаў генерал,*
*аднадумцу рады.*
*— Я! — адказаў яму адмірал.*
*— Я! — запярэчыў яму генерал.*

*Схапіліся за пісталеты і ўпалі:*
*Абое трапна стралялі.*

*І першы прамень, што пранік праз шторы,*
*Ашклянелых вачэй убачыўшы зрок,*
*Ад страху зноў схаваўся ў моры.*
*А над краінаю*
*Змрок...*
*Змрок...*
*Змрок.*

5 Зак. 2168

## Душа і цела

*На цёплы майскі дзень*
*Зірнуўшы з-пад крыла,*
*У квецені садоў*
*Спяваюць птушкі звонка.*
*Андрэй мой узмужнеў,*
*Алеся падрасла,*
*І, гледзячы на іх,*
*Памаладзела жонка.*

*Расчулены і я*
*Чароўным веснім днём,*
*Сямейкаю сваёй,*
*Дзе я цяпер, як лішні.*
*А за бальнічным,*
*За двайным-глухім акном*
*Пялёсткі першыя*
*На дол скідаюць вішні.*

*Халат накіне ўрач*
*Бадзёры, як заўжды,*
*Паслухае, памацае*
*Знясіленае цела.*
*І не заўважыць ён,*
*Куды яна, куды —*
*Душа мая —*
*Адчайна адляцела?*

*І не заўважыць ён.*
*Я ведаю і сам:*
*Аблытаў я яе*
*Пакутамі такімі,*
*Што скардзіцца зляцела*
*Прыпяцкім лясам,*
*Яна з маленства*
*Сябравала з імі.*

*Паспавядацца ім*
*За ўсе мае грахі,*
*Паспавядацца ім*
*За ўсе мае пралікі.*
*Я да чужога болю*
*Не глухі,*
*Ледзь-ледзь цярплю*
*Уласны боль вялікі.*

*На скрaзняках дарог*
*Сябе я не бярог.*
*З людзьмі душа мая*
*І плакала, і пела.*
*І толькі хворы*
*Зразумець я змог:*
*Што цела без душы?*
*І што душа без цела?*

*І цела і душу*
*Я часта сам глушыў.*
*І вось цяпер*
*Прыходзіць празарэнне.*
*Нібыта на крыжы,*
*Распяў я крык душы.*
*Яна трывае,*
*Ды баліць сумленне.*

* * *

*Сысці на паўстанку далёкім,*
*Зусім незнаёмым, чужым.*
*І слухаць у жыцце высокім*
*Ускрык перапёлкі ў цішы.*

*Вызваньваюць чыстыя росы*
*Мелодыю зоркавых сфер.*
*Зліліся зямля і нябёсы*
*І мой і спакой, і давер.*

*І думка мільгае жывая:*
*Нарэшце я змог тут знайсці*
*Усё, чаго мне*
*не хапае*
*Чамусьці заўсёды ў жыцці.*

*І, ловячы раннюю znічку,*
*Там, дзе небасхіл запалаў,*
*Адчуць, што сваю электрычку*
*У тлумным жыцці не праспаў.*

# Я вас люблю

*1*

*— Я вас люблю! —*
*Сказаў я ўпершыню*
*У львоўскім парку тым спякотным летам*
*І ёй і сонцу, жнівеньскаму дню.*
*Яна змаўчала. Я за ёю следам*
*Ішоў, як цень. Ды толькі не віню*
*Яе, зляканую прызнаннем гэтым.*
*Я да самотнай думкі быў прыкуты:*
*Шукаў каханне, а знайшоў пакуты.*

*2*

*— Я вас люблю!*
*Хто, адкажыце мне,*
*Ні разу не пачуў такія словы?*
*Які ні будзе новы век суровы,*
*Без гэтых слоў не абысціся, не!*
*Глядзіце, вунь юнак светлагаловы*
*З букетам руж бяжыць па сцяжыне.*
*Не абпаліся ж, хлопча, у жыцці,*
*Каханню вечна на зямлі цвісці!*

*3*

*— Я вас люблю!*
*Магічнасць гэтых слоў*
*Хвалюе, і чаруе, і ўзвышае.*
*У лексіконе нават і ў цароў*
*Без цяжкасці іх кожны адшукае.*
*Але чамусьці царская любоў*
*Прыгнётам невыносным люд карае.*
*Не будзь жа ні прыгонным, ні царом.*
*Быць у каханні трэба песняром!*

4

*— Я вас люблю!*
*Які мой шлях ні быў,*
*Як ні хістаўся човен майго лёсу,*
*Я нават хвалям гэта гаварыў,*
*Што неслі не ратунак, а пагрозу.*
*І, можа, гэты просценькі матыў*
*Іх улагоджваў лепей, чымсьці слёзы.*
*Не можна, мабыць, нам на свеце жыць,*
*Каб свет, які б ні быў ён, не любіць!*

## Слізкая дарога



*Я газануў на павароце,*
*Скруціў машыну рух імклівы.*
*І сэрца ёкнула ў палёце,*
*Хаця не быў я палахлівы.*

*Ён тут як тут, аўтаінспектар:*
*— Ты што, на неба навастрыўся?*
*Мой твар счарнелы, як пратэктар,*
*Ад поту чаднага дыміўся.*

*Глядзіць інспектар падазрона,*
*Глытаючы дарожны смог.*
*Перада мной слуга закона*
*Цяпер стаіць, як цар, як бог.*

*Я стаў нікчэмным і прапашчым,*
*Хаця наўмысна не спяшыў.*
*Ажыў зацюканы мой прашчур*
*Перапалохана ў душы.*

*Той, што ярмо цягаў вякамі,*
*Гарбацячы, нібыта вол.*
*Відаць, ягонымі вачамі*
*Я ўпёрся ў разгайданы дол.*

*Ды прашчур, мабыць, быў упарты,*
*Адчуў інспектар сам, наўздзіў:*
*— Дарога, бачыце, не жарты,—*
*Сказаў і тут жа адпусціў.*

*З дынаміка пра максі-міні*
*Гучаў замежны модны спеў.*
*А я ў кабіне, як на міне,*
*Да самай Рэчыцы сядзеў.*

*О, колькі я на гэтым свеце,*
*Не разлічыўшы паварот*
*Ці падштурхнуты —*
*у кювеце*
*Зямлю тараніў, быццам крот.*

*Маю разгубленасць і скруху*
*Сляпілі стрэчныя агні...*
*Не парушай законы руху,*
*Будзь пільным, дружа, не гані!*

## Вячэра



*Збіралі палонныя жолуд,*
*Збягалі да вёскі часцей.*
*Цяпер іх і холад і голад,*
*Як нас, працінаў да касцей.*

*Нам нелупку маці варыла.*
*Дзе ж бульбы ёй добрай дастаць?*
*Варыла і нам гаварыла:*
*— Не ляжам галодныя спаць...*

*І вось, калі ў хаце разліўся*
*Вячэры разварысты пах,*
*З'явіўся, як не запыліўся,*
*Азызлы палонны ў дзвярах.*

*Цяпер не распетрыў ён глотку,*
*Прыгнуў яго страх і адчай.*
*Ён зняў нерашуча пілотку,*
*Гугнявячы сіплае:*
*— Дай!*

*Убачыў дзіцячыя вочы,—*
*Ад голаду пухлі яны,—*
*Амаль ад парога адскочыў,*
*Прыпаў галавой да сцяны.*

*Да той, што скрываўленым летам,—*
*Ягоны хаўруснік ці не? —*
*Наведзеным пісталетам*
*Прыціснуў малога мяне.*

*Таго заваёўніка жарты*
*Такі нарабілі мне страх,*
*Што доўга баяўся я хаты,*
*Зздзічэла крычаў па начах...*

*Цяпер жабракуе, ўздыхае*
*І твар захінае рука.*
*І, плачучы, маці ссыпае*
*Ў пілотку наш харч з чыгунка.*

*Нібыта ашпараны, з хаты*
*Шмыгнуў на падворак хутчэй.*
*Там іхнія, помню, салдаты*
*Лавілі са смехам курэй.*

* * *



*Чамусьці я ў гэта не веру,*
*Што мала на свеце даверу,*
*Што падазронасць пануе,*
*Якую нічым не скрышыць,*
*Што зло ўвачавідкі гарцуе,*
*Дабро між людзей ледзь ліпіць.*

*Чамусьці не веру я ў гэта,*
*Пакуль яшчэ кружыць планета*
*І дзеці смяюцца.*
*Пакуль*
*І лашчаць іх, і спавіваюць,*
*Да зорных вышынь выпраўляюць*
*Лагодныя рукі матуль.*

*Я веру, што ўсё мае меру:*
*І рэчы, і ночы, і дні.*
*І толькі не мае памеру*
*Бясконцы сусвет дабрыні.*

* * *

*Век доўгі і вельмі кароткі.*
*Па кім гэта звоняць званы?*
*Старэюць мае аднагодкі,*
*Няшчасныя дзеці вайны.*

*Не ў лузе, не ў лесе зязюлі —*
*Гаротныя нашы гады*
*Лічылі варожыя кулі,*
*Салютаў у небе сляды.*

*Нам выпала ўдачы падкова,*
*Як свет захадзіў хадуном.*
*Так, выжылі мы выпадкова,*
*Ды не выпадкова жывём.*

*Мы так наглыталіся дыму*
*На гэтай пакутнай зямлі,*
*Што змалку свой дом і Радзіму*
*Ад новых пакут зберaглі.*

*Дзяцей падрасцілі.*
*Унукі*
*Нам просяцца сёння на рукі.*
*І той-сёй, абпалены, з нас —*
*Згас.*

*І, можа, сівеем так рана,*
*І чуем так рана званы*
*Не слынныя ветэраны —*
*Звычайныя дзеці... вайны.*

## Белая лілея



*Над ярам над крутым*
*Чаромха зацвіла.*
*Над ярам над крутым*
*Вясновая завея.*
*Я дзякую табе,*
*Што ты са мной была,*
*Чароўная мая лілея.*

*Я дзякую табе*
*За ласку і цяпло,*
*Я дзякую табе*
*Пяшчотна і сардэчна.*
*Лілею ад мяне*
*Удалеч аднясло,*
*А ў сэрцы ты маім*
*Навечна.*

*Чаромха адцвіла.*
*Лілея расцвіла.*
*Схіліліся ў журбе*
*Пялёсткі над вадою.*
*Каб ведаць ты магла,*
*Каб зразумець магла,*
*Як я хачу*
*Зноў быць з табою.*

*І не шкадую я,*
*Што недзе яр круты,*
*Чаромха па-над ім,*
*А пад гарой лілея.*
*Хацеў бы я забыць,*
*Што недзе ёсць і ты,*
*А сэрца ўсё забыць*
*Не ўмее.*

## Папараць-кветка

*Вабяць азёрныя далі*
*Ціхай вячэрняй парой,*
*Дзе мы аднойчы шукалі*
*Папараць-кветку з табой.*
*Зоры з табой мы лічылі*
*Каля азёрнай вады.*
*Кветкай чароўнай, дзяўчына,*
*Стала ты мне назаўжды.*

*Папараць-кветка ўзыходзіць,*
*Папараць-кветка цвіце.*
*Папараць-кветку знаходзіць*
*Той, хто з каханай ідзе.*

*Чыстыя воды купалля,*
*Лес прыазёрны і луг*
*Нам падарылі каханне —*
*Шчасцем азораны круг.*
*Шэпчуць дрымотныя хвалі*
*Голасам птушкі начной.*
*Папараць-кветку шукалі —*
*Шчасце знайшлі мы з табой.*

*Папараць-кветка ўзыходзіць,*
*Папараць-кветка цвіце.*
*Папараць-кветку знаходзіць*
*Той, хто з каханай ідзе!*

* * *



*Суседа, стоячы ля брамы,*
*Спытала цётка Акуліна:*
*— Ці шмат людзей ля новай крамы?*

*— Людзей няма, адны жанчыны! —*
*Сказаў той, з раніцы «пад мухай»,*
*І лупцануў гнядога пугай.*

*Як замаруджаную міну,*
*Скаланула Акуліну:*

*— Адкуль жа людзям тым узяцца,*
*Калі вы будзеце співацца!*

* * *

*Гаварыла жонка мужу:*
*— Я цябе пакінуць мушу.*
*І гультай ты, і маўчун,*
*І тупы, нібы калун!*

*— Слухай, падавай вячэру,*
*Ці ж мая у тым віна:*
*Ты і вострую сякеру*
*Дадзяўбеш да калуна.*

* * *



*— Мурашом у кавалку бурштыну*
*Я у памяці Вашай застыну...—*
*У гарачым курортным экстазе*
*Вуркатаў палюбоўніцы Вася.*

*Тая думала доўга ці мала*
*І на вушка яму прашаптала:*
*— Будзь маёю каштоўнасцю,*
*Будзь!*
*Колькі ў скупцы за гэта дадуць?*



6 Зак. 2168

* * *

*Літаратар без традыцыі,*
*Як салдат без амуніцыі.*

*Без канцэпцыі наватар,*
*Як на сцэне імітатар.*

## Лісты франтавыя



*Чытаю лісты франтавыя,*
*І сэрца трапеча і ные,*
*І лезе фраза ў галаву:*

*— Мама, я не дажыву...*

*У змрочнай нятопленай хаце*
*Уголас чытае ліст маці,*
*А я ўпрыхліпку раву:*

*— Мама, я не дажыву...*

*Ніхто з нас, малодшых, не знае,*
*Дзе яна, перадавая,*
*Што косіць людзей, як траву:*

*— Мама, я не дажыву...*

*А трэці свой ліст*
*Наш брат Міша*
*Ніколі дамоў не дапіша.*
*Навекі,— ў канцоўцы таксама,—*
*Застыла кароткае:*

*— Мама...*

# Шэршні

*Напалі шэршні на мяне*
*І ў лазнякі ўзвіліся.*
*Нібы шпрыцы, ў маёй спіне*
*Іх джалы засталіся.*

*Брат іх вышморгваў, я стагнаў,*
*Глядзеў на плёс пахмура*
*І, паразяблы, адчуваў:*
*Расце тэмпература.*

*З галін пахілага дубка*
*Сябры мае ныралі*
*І варанога жарабка*
*На водмелі купалі.*

*Ніхто на боль мой не зважаў,*
*Ні людзі, ні прырода.*
*Нібы не я узбоч ляжаў,*
*А нейкая калода.*

*Ад крыўды, мабыць, я ўваскрэс.*
*Хоць быў мне свет нямілы,*
*Хістаючыся, я палез*
*На той дубок пахілы.*

*Такога даў адтуль нырца,—*
*Каб не сябры, не брацік,*
*Застаўся там бы да канца,*
*Не вынырнуў бы... ў хаце.*

*Пасля і мне іх ратаваць*
*Прыйшлося ў дні цяжкія,*
*Як шэршні сталі іх кусаць,*
*Не тыя, дык другія.*

# Пачатак лета



*Жывыя хвалі аксаміту*
*Плывуць за сонны небакрай.*
*У дудачкі звілося жыта*
*На добры, кажуць, ураджай.*

*Дасвеццем росы-самасеі*
*Згінаюць травы да зямлі.*
*Не верыцца, што тут завеі*
*З вятрамі сцюжнымі гулі.*

*Усё расце, усё буяе*
*І на палетках і ў бары.*
*Ад сілы сокаў набракае*
*На ўзлеску нават пень стары.*

*Яго жывая карнявіна*
*Яшчэ не ведае спачыну.*
*І вось прыйшоў ён, дзень такі —*
*Адгонцы пырснулі ў бакі.*

*І сам я на пачатку лета,*
*Бліжэй да маладога свету,*
*А да цябе — яшчэ бліжэй.*
*Ты не журыся, усміхніся.*
*Глядзі, пяшчотна як спляліся*
*Адгонцы нашых мар-надзей.*

*Былі й між нас яны, завеі,*
*І замаразкі дзе-нідзе.*
*Але каханне*
*Не слабее,*
*Цвіце каханне*
*І расце.*

## Выгнаннікі

*Апоўначы на пустыры*
*Сабакі згурціліся ў зграю,*
*Якіх свае ж гаспадары*
*З кватэрнага пагналі раю.*

*Тут і баксёр, тут і ганчак,*
*І медаліст ёсць сабачыны.*
*Салодкае няволі смак*
*Яшчэ казыча ім наздрыны.*

*Яшчэ парфумай пахне поўсць,*
*Не патыхае псіным потам,*
*І не грызуцца шчэ за косць,*
*Засмурадзелую пад плотам.*

*І на бяздомнікаў-прыблуд*
*Гірчаць з нянавісцю былою,*
*Хоць у прыблуд вучыцца тут,*
*Як не расстацца з галавою.*

*А зводдаль змрочнае гайні*
*Пародзіста ляжыць аўчарка,*
*Не засмучоная ані,*
*Ёй ані холадна, ні жарка.*

*І думае:*
*шукаць пара*
*Другія для ратунку дзверы.*
*І ў новага*
*гаспадара*
*Глыбей хаваць свае намеры*
*І шанаваць яго манеры.*

## Мораны дуб

*Ланцугом зацуглялі яго цесляры.*
*Пыхкаў трактар натужна на ўскраі сяла.*
*Гэты мораны дуб спрасаваўся ў віры,*
*Ні сякера яго не бярэ, ні піла.*

*І круцілі яго, і вярцелі яго,*
*Цыркулярцы ён вострыя зубы скрышыў.*
*Пад бакі падкладалі з саляркай агонь.*
*І агонь адхінуўся, знямелы наўздзіў.*

*І майстры пакланіліся нізка яму —*
*Звычай даўні шануецца ў палешукоў.*
*Наваколлю акрасай хай будзе ўсяму*
*Ацяжэла-ўчарнелы равеснік вякоў.*

*Ён, як помнік,*
*Узняўся на кручы крутой,*
*Помнік долі цяжкой,*
*Помнік долі*
*Людской.*

*Толькі змрок набяжыць напрасткі па карчах*
*Да халодна-свінцовага берага Сожа,—*
*Кажуць людзі, ён стогне ў асенніх начах,*
*Нешта хоча сказаць, ды прамовіць не можа.*

## Не папракай...

*Не папракай, схіліўшыся ў журбе,*
*Што я не ўсё аддаў адной табе.*

*Аддаць усё — як трапіць у палон.*
*Адной табе навошта гэты звон*
*Бароў зарэчных, гамана крыніц?*
*Перад табою я не падаў ніц.*
*Не падаў ніц. Я тым шчаслівы быў,*
*Што лёс нам шчасце пораўну дзяліў.*

*А як цяпер нам шчасце зберагчы,*
*Калі нам зябка поруч уначы,*
*Калі зліліся і зіма і лета?*
*А гэта ўжо найгоршая прыкмета.*
*Найгоршая прыкмета. І таму*
*Суровы лёс пачуцці нашы ў зморы,*
*Як арыштантаў, кінуў у турму*
*І браму зачыніў на ўсе запоры.*

*Я рукі працягну табе праз краты:*
*— Каханая! У чым я вінаваты?*

*Замкнутае маўчаннем, як замкамі,*
*Каханне халаднее паміж намі.*
*У чым віна мая? Відаць, у тым,*
*Што я, зачараваўшыся табою,*
*Цябе ўяўляў істотаю святою,*
*А для цябе — звычайным быў, зямным.*

*Здавён дзівосы любіць грамада*
*І з дзівакоў смяецца для настрою.*
*Не ведаў я, што рэўнасці бяда*
*Ужо цікуе з-за вугла за мною.*

*Цябе ўзнімаючы усё вышэй, вышэй*
*Над цэлым светам і ў вачах людзей,*
*Я так цябе уславіў да нябёс,*
*Што да нябёс тых сам я не дарос.*

*Не папракай, схіліўшыся ў журбе,*
*Што я не ўсё адной аддаў табе.*

*Аддаць усё — як трапіць у палон.*
*Але, ці быў калі салодкі ён?*
*Няпраўда, ён салодкі не бывае,*
*Ды і каму патрэбны ён, калі*
*Адзін у паднябессі дзесь лунае,*
*Другі — пакутна ходзіць па зямлі.*

## Гаворыць Масква...

*«Гаворыць Масква!..» —*
*зноў гучаць*
*пазыўныя.*
*І свет прачынаецца*
*ў хвілі такія*
*Ад зоркі світальнае*
*да каласка.*
*«Гаворыць Масква!..»*

*І сонца ўзыходзіць.*
*І цені знікаюць.*
*І росы іскрацца.*
*І птушкі спяваюць.*
*І светла ліецца*
*над светам надзея,*
*Што ён не старэе,*
*што ён маладзее,*
*Што не наколецца*
*ўзрушаны свет*
*На вострыя пікі*
*крылатых*
*ракет.*
*«Гаворыць Масква!..» —*
*зноў гучыць урачыста.*

*Праводзяць*
*чарговы свой з'езд*
*камуністы.*
*І словы праўдзівыя*
*ловіць планета*
*Як самае*
*чыстае*
*ў свеце*
*паветра.*

*Партыйныя з'езды!*
*Праз годы,*
*вякі —*
*Для чалавецтва,*
*нібы маякі,*
*Што ленінскай праўды*
*разносяць святло,*
*Каб гора людское*
*навечна сплыло.*

## Печурыцы

*Кіну вуды і пачну дзівіцца,*
*Як свае абшморгваючы пёркі,*
*У пясчанай кручы печурыцы*
*Точаць пакручастыя пячоркі.*

*Як пясочак з крыльцаў абтрасаюць,*
*Слізгануўшы нізка над вадою.*
*Як высока ў неба узлятаюць*
*З лёгкасцю імклівай —*
*чарадою.*

*З узбярэжжа —*
*ластаўкай з падстрэшша*
*Выпырхае птушка-пералётка.*
*І не знае, што вясной падрэжа*
*Кручу зноў імклівая паводка.*

*Можа, птушкі ведаюць пра гэта,*
*Ды не наракаюць на прыроду.*
*Птушанят выводзяць кожным летам,*
*На крыло іх ставяць да адлёту.*

*Каб пасля ім з выраю вярнуцца,*
*Распачаць свой танец каля рэчкі,*
*Знаючы: вужы не дабяруцца*
*Цераз прорву ў іхнія гняздзечкі.*

# Начныя анёлы

*Начныя анёлы —*
*вясковыя матацыклісты,*
*Скафандры чырвоныя зняўшы,*
*стаўбуняцца ля ракі.*
*І прыпарнымі начамі*
*купаюцца, нібы нудзісты,*
*І роснаю лугавінай*
*да вёскі ляцяць напрамкі.*
*Пражэктарамі па вокнах*
*слізгаюць сліпучыя фары,*
*Таранячы цемру начную,*
*шнарыць па хатах святло.*
*Але не высвечваюць фары*
*у вокнах дзявочыя твары,—*
*У горад сплаўляе*
*нявест перспектыўных сяло.*
*Будзе, як кажуць,*
*надзейна-трывалая змычка*
*Горада з вёскай*
*праз год ці праз месяц,*
*калі*
*Зяця сюды прынясе*
*казённая электрычка*
*Ці персанальна-ўласныя —*
*цешчыны «Жыгулі».*
*Толькі і гэтак бывае:*
*рэйсам апошнім*
*дзяўчына*
*Ад вока чужога хаваючы*
*у горадзе знойдзены скарб,—*
*Раптам зянацку прывозіць*
*дадому дачушку ці сына,*
*І захлынаецца плачам,*
*і салавее ад скарг.*

*Вось і шныпарацъ да ранняя*
*ўлетку начныя анёлы,*
*Кісла-калючыя звонку,*
*як маладзенькі агрэст.*
*Не даганяюць пакуль што*
*іх звышсучасныя колы*
*Тэле-кіно абпрамененых*
*суперсучасных нявест.*

## Зазімак



*Па ім аж пяць ствалоў*
*Палілі.*
*І што б вы думалі?*
*Забілі!*
*Яшчэ дыміліся ствалы,*
*А ён, загнаны ганчакамі,—*
*Камяк скрываўлены, малы,*
*Гроб снег дрыготкімі нагамі.*
*Стралкі, не гледзячы на кроў,*
*Спрачаліся,*
*Хто з іх лаўчэйшы.*
*І сярод гэтых кажухоў*
*Быў заяц*
*Найнешчаслівейшы.*
*Пасля ізноў*
*За стрэлам — стрэл.*
*Не паляванне,*
*А расстрэл.*

* * *

*Леаніду*

*Я прыехаў дадому здалёк,*
*Перажыўшы і смутак, і страты.*
*Ды ніхто тут не крыкне:*
*— Сынок!*
*І насустрач не кінецца з хаты.*

*Без бацькоў замурожыўся двор,*
*Журавель над калодзежам стыне.*
*Скасабочыўся плот без падпор*
*У загуслай крапіўнай націне.*

*— Добры дзень!*
*Я не трачу надзей.*
*Добры дзень!*
*Чуеш, родная хата?*
*Можа, раптам з далёкіх гасцей*
*Зараз вернуцца мама і тата.*

*Трэба ж грубку паспець пратапіць,*
*Зараснелы калодзеж адліць.*
*Трэба ж хату і сенцы прыбраць*
*І аеру ля ганка паслаць.*

*І прыбраў,*
*І паслаў,*
*Пратапіў*
*І зварыў я вячэру, вядома.*
*І гаросныя слёзы праліў —*
*Мне сароміцца некага дома...*

## Жыццёвы крыж



*Дамоў дзяўчыну я праводзіў,*
*Мой шлях праз могілкі праходзіў,*
*Назад вяртаўся.*
*Раптам крыж*
*Спытаў мяне:*
*— Чаму не спіш?*

*У звонка-ядранай прасторы*
*— Чаму не спіш? —*
*Звінелі зоры,*
*І пеўні, прадзяўбаўшы ціш,*
*Крычалі мне:*
*— Чаму не спіш?*

*Я звяў, разгублена-ціхмяны,*
*Як злодзей, за руку спайманы.*
*І з той пары быў я не рад*
*Сустрэць Яе паміж дзяўчат,*
*Хоць нагадаў аднойчы крыж:*
*— Чаго ты спіш?*

*Прайшлі гады.*
*Я тым жа шляхам*
*Ішоў прыгнечаным бадзягам:*
*Убачыць бы, хаця б разок,*
*Каханне першае здалёк!*
*І прыдарожны крыж спытаў:*
*— Ну... што...*
*Праспаў?*



7 Зак. 2168

## У школе з англійскім ухілам

*У школе з англійскім ухілам*
*Дзецям раяць размаўляць па-англійску.*
*Тут усе надпісы, шыльдачкі*
*І нават школьны расклад,*
*Усё,— апрача гімнаў,— усё на англійскай мове.*
*Дырэктар водзіць мяне па класах,*
*Лабараторыях, майстэрнях,*
*І я сапраўды адчуваю сябе турыстам*
*У школе з англійскім ухілам...*
*Дырэктар гаворыць, што гэта толькі пачатак,*
*Што школу чакаюць вялікія перспектывы,*
*Асабліва калі яшчэ ў ясельна-садзікавых групах*
*І нават дома дзеці загавораць па-англійску.*
*— Даруйце,— перапыняю яго я,—*
*Мабыць, я пераблытаў школу*
*Ці не туды патрапіў:*
*Я нічога не разумею па-англійску,*
*Як жа мне з вучнямі паразумецца?*
*Я люблю мовы ўсіх народаў і нацый,*
*Ды як адчапіцца ад асацыяцый?*
*У мяне іншы ўхіл. У дзяцінстве раннім*
*Інстынктыўна пазнаваў я нямецкую мову.*
*Перакрыжаваная кулямётнымі чэргамі,*
*Перасыпаная бруднай лаянкай фашыстаў,*
*Стогнамі параненых і плачам дзіцячым,*
*Мова гэтая нагадвала мне шкло,*
*Па якім я ўцякаў басаnож*
*З падпаленай карнікамі хаты.*
*Пахла яна агнём і крывёю...*
*Жыццё адмыла гэты пах,*
*Але не змыла дзіцячы страх.*
*Так што даруйце,*
*Пра што раскажу я*
*У школе з англійскім ухілам?*

## Вароны



*Як яны над поплавам гулі,*
*Як яны над поплавам крычалі...*
*Сокала вароны задзяўблі,*
*У лазу на ўзболатку загналі.*

*Абляпіўшы дрэвы і кусты,*
*Чысцячы прытупленыя дзюбы,*
*Ведалі, што сокал малады*
*Не ўцячэ ад немінучай згубы.*

*Чым жа зграю сокал угнявіў,*
*Чым жа ён яе раз'юшыў, сокал?*
*Можа, тым, што незалежна жыў*
*І над вараннём лунаў высока?*

*Мяккі змрок струменіўся ў лазе.*
*Сокала даконваючы зморам,*
*Каркалі вароны па чарзе,*
*Каркалі і ўсім бязладным хорам.*

*І, рвучы абложнае сіло,—*
*Хай жа хоць надзея узаўецца,—*
*Заваліўся сокал на крыло,*
*Карканне не вытрымала сэрца.*

*Ціха хмаркі сонныя плылі,*
*За ракою чырванелі далі.*
*А вароны, як раней, гулі,*
*А вароны, як раней, крычалі.*

## Сустрэча

*У гарадок над Прыпяцццю-ракой*
*Закінула яго камандзіроўка.*
*І ўсплыў у памяці зялёны домік той,*
*Дзе некалі жыла яго сяброўка.*

*Здзівіўся:*
*Нават нумар не забыў,*
*І пазваніў расчулена з вакзала.*
*І блытана ёй нешта гаварыў...*
*— Прыйду,— яна гулліва адказала.*

*Ён выглядаў сяброўку з-за вугла,*
*Не ведаючы, што яна таксама*
*Яго ў натоўпе неўпрыкмет знайшла*
*І да яго не кінулася прама.*

*— Глядзі ты,— думала,—*
*Як зморшчаны арэх,*
*З такім цяпер мне сустракацца грэх...*
*А ён падумаў:*
*— Меж не мае цела:*
*Яна катастрафічна растаўсцела...*

*І міма невідушча ён прайшоў*
*З палёгкаю:*
*«І што я ў ёй знайшоў!»*
*Расчаравана і яна прайшла,*
*Падумаўшы:*
*«І што я ў ім знайшла!»*

# Ліпень



*На глухіх выжарынах лясных*
*Пахнуць пераспелыя суніцы.*
*Разамлела хмеляць медуніцы*
*На глухіх выжарынах лясных.*

*Сочыцца жывіца з-пад кары,*
*Па ігліцы на траву страсецца.*
*Сонна сойка ўскрыкне ў гушчары,*
*Поблізу ёй дзяцел адгукнецца.*

*Зварухне і перагорне ліст*
*На асінцы сытая спякота.*
*Дрэмле заяц.*
*Дрэмле дзік і ліс,*
*Дрэмлюць і ласі сярод балота.*

*Я і сам, згрызот сваіх пастух,*
*Чараміляснымі разагрэты,*
*Ад лянотнай млявасці распух*
*Пасярод сукведістага лета.*

*Тут, у сховах дрэў, кустоў і траў,*
*Свет сябе выспельваў і пладзіўся,*
*Нібы я не жыў, не бедаваў,*
*Нібы я яшчэ не нарадзіўся.*

*Быў я свой між соснаў і ялін,*
*Родзічам табе, мураш рухавы.*
*Нібы той далёкі славянін,*
*Што яшчэ не знаў пакут і славы —*
*Неба і зямлі слухмяны сын.*
*І яму, пад бок паслаўшы травы,*
*Мяккі ліпень лашчыў зрок і слых*
*На глухіх выжарынах лясных.*

## Совы

*Лістападаўскім вечарам цёмным*
*Да шашы я спяшаўся з дубровы.*
*Нада мной, нібы ў царстве сонным,*
*Закугікалі раптам совы.*

*Ведаў я, хто рагоча, і плача,*
*І пішчыць, і вішчыць нада мною.*
*Хто хаўтурна галосіць, няйначай,*
*Захлынаецца ўласнай крывёю.*

*Шамацела сухая лістота,*
*Ашалелыя шорхалі птахі,*
*А мяне аж да сёмага поту*
*Праціналі халодныя жахі.*

*Неўпрыкмет ад настрою такога,*
*Як ашпараны шорхатам-свістам,*
*Прыгадаеш і чорта, і бога,*
*І на свеце усіх атэістаў.*

*Як страх зубы клыкастыя шчэрыць,*
*Як ты робішся спуджана-хворым,—*
*Хто не верыць, той можа праверыць,*
*Мы пра гэта пасля пагаворым.*

*Гэты страх на мяжы асалоды*
*Робіць розум такім праяснелым,*
*Быццам стрэўся з душою прыроды,*
*А не з дзённа-пейзажыстым целам.*

## Вясельныя картэжы



*Калі вясельныя картэжы*
*Па людных вуліцах ляцяць,*
*На тратуарным узбярэжжы*
*Усе ім з зайздрасцю глядзяць.*

*Чужое шчасце нас ласкавіць,*
*Як сонца — познюю траву.*
*Пенсіянер — спіну расправіць,*
*Юнак — пачэша галаву.*

*Паволі вуліца пусцее,*
*Што днём гудзе на ўсе лады.*
*І свет затурканы дабрэе,*
*Зацюканы — дабрэеш ты.*

*Адчуеш смутак непазбежны*
*І захапленне, нават страх,*
*Калі вясельныя картэжы*
*Ляцяць па вострых віражах.*

*Пад гул святочны і ўрачысты*
*Жаніх прыціхне з маладой,*
*Як юныя эквілібрысты*
*Перад натоўпам над зямлёй.*

*На тратуарным узбярэжжы*
*Што давядзецца ім згадаць,*
*Калі ўжо іншыя картэжы*
*Імкліва міма праляцяць?*

## Завод

*1. Палешуку*

*Завод рамонтна-механічны.*
*Узлёт мой мройна-рамантычны*
*Да вабных інжынерных сфер,*
*Дзе цэняць справы, а не словы,*
*Дзе праз накачкі і вымовы*
*Расце сапраўдны інжынер.*

*Чаму ён сніцца мне начамі,*
*Завод з бяссоннымі вачамі,*
*Дзе друг мой, Ігар Паляшук,*
*Ірве фантазіяй, разлікам,*
*Загадам, просьбай, часам крыкам*
*Палон штодзённых творчых мук?*

*Як з маладосці загрузілі,—*
*Яго падводзіць дабрыня,—*
*То і паклажу зняць забылі,*
*Нібы з цягучага каня.*

*Аднак Арсенавіч не плача,*
*Без клопатаў не можа жыць.*
*І з маладзёнкамі паскача,*
*І ветэранна пашуміць.*

*На сходах сумных і бурлістых*
*Не лічыць лішнім нагадаць:*
*Такіх, як ён, спецыялістаў*
*Начальству трэба шанаваць!*

*Прыгрозіць:*
*— Зволіцца хачу я!*
*Ні дня спакойна не пражыў!*
*І зноў у цэху заначуе,*
*Каб новы залатаць прарыў.*

## Клён і дзічка



*Рыгору*

*Некалі ў класе дзевятым,—*
*Дзе яна, тая вясна? —*
*Клён пасадзілі мы з братам.*
*Вось ён шуміць ля акна.*

*Клёну лясная сястрычка,—*
*Звыкліся ўжо ў цеснаце,—*
*Побач калючая знічка*
*Ранняй вясною цвіце.*

*Звон асядае пчаліны,*
*Лашчыць іх ціш і спакой.*
*Зверху спляліся галіны,*
*А карані — пад зямлёй.*

*Вынесем стол на падворак,*
*Сядзем з табою між дрэў,*
*Каб аж да ранішніх зорак*
*Слухаць вячысты напеў.*

*Ды нам не вернуць былога*
*Хвалі жыццёвай ракі.*
*Сонна не мукне карова,*
*Спаць не паклічуць бацькі.*

*Пад небасхілам Айчыны*
*З ціхай самотай-журбой*
*Мы з табой, як вершаліны,*
*А карані — пад зямлёй.*

*І не птушыная звычка,—*
*Клічуць здалёк нас дамоў*
*Клён пастарэлы і дзічка*
*Голасам ціхім бацькоў.*

## Міністр без партфеля

*У вёсцы і зараз жыве той Амеля,*
*З мянушкаю дзіўнай:*
*«Міністр без партфеля»,*
*Да вёскі прыбіўся ён не самапасам,*
*З раёна прывезлі яго на падводзе,*
*Абралі яго старшынёю калгаса,*
*А потым сказалі:*
*— Годзе!*
*Пакуль яму гэта аднойчы сказалі,*
*Дом цесляры яму пабудавалі,*
*Амеля прыжыўся, асем'яніўся,*
*І долі сваёй кіраўнічай скарыўся,*
*І на арбіце службовай завіс,*
*Ды рос ён чамусьці не ўверх, а ўніз.*
*І людзі зжыліся з шаноўным Амелем,*
*Як ён з кіраўнічым шурпатым партфелем.*
*Няма ў гаспадарцы ніякай пасады,*
*Якой бы Амеля ў свой час не даў рады,*
*Дзе б не пабывала Амелі нага,*
*Дарос ён, нарэшце, да пастуха.*
*Дарос і, напэўна, спачатку здзівіўся,*
*Што талент ягоны так хутка раскрыўся.*
*За месца сваё перастаў калаціцца,*
*Не збітаму з тропу апекунамі,*
*І добра есца яму, і спіцца,*
*І мулка не гэтак, як нам з вамі.*
*Паздаравелы, крамяны, як грыб,*
*Да працы, як кажуць на вёсцы, прыліп.*
*Удоі нарошчваў, і мяса нагульваў,*
*І ад раматусу ўжо не накульгваў.*
*На кадры багаты ён, час наш вятрысты,*
*Мяняліся розныя спецыялісты,*
*Адны выраслі, другія завялі,*
*За вёскай вунь селішча забудавалі,*

*Аднавяскоўцы з рукі нечай лоўкай*
*Празвалі пасёлачак той «Брахуноўкай»,*
*Дзе ў доміку першым прыжыўся Амеля,*
*Славуты пастух наш —*
*Міністр без партфеля.*
*Як толькі на ферме палепшала справа,*
*Прыйшла да Амелі раённая слава.*
*А слава заўсёды сяброўку гукае,*
*Прыйшла неўпрыкмет да яго — абласная.*
*А там зачасцілі і госці сталіцы,*
*Каб у Амелі сакрэтам вучыцца.*
*...На пенсіі зараз калгаснай Амеля,*
*Пастух ганаровы — міністр без партфеля.*
*Мяняецца час, і мяняюцца кадры,*
*А вопыт Амелі чаго-небудзь варты.*

## Чорны кот

*Ускрыкнуў ад крыўды і болю,*
*Уцёк ад аблогі варожай.*
*Загналі ката на таполю,*
*А злезці назад ён не можа.*

*Лавіў ён калючыя словы,*
*Залізваючы сіняκі:*
*— Адразу відаць — не вясковы,*
*Адразу відаць — гарадскі...*

*Ды не правядзеш на мякіне*
*Таго, каго люд пакараў.*
*Тры дні ён сядзеў на галіне*
*І толькі начамі крычаў.*

*Працоўны і пенсіянерны*
*Гнявіўся ўвесь дом шматкватэрны,*
*Ды не спачуваў ён кату,*
*Нібы вешчаваў той бяду.*

*Сядзячую забастоўку,*
*Відаць, падхапілі б каты,*
*Ды ўбачыўшы неяк сяброўку,*
*Ён шухнуў за ёю ў кусты.*

*Заляпалі вокны і дзверы,*
*Да раніцы зноў дом не спаў.*
*Гадалі-рашалі кватэры,*
*Чаму кот крычаць перастаў?*

## Касавіца



*Узбоч дарожнай магістралі*
*Мужчыны з косамі стаялі.*
*У плаўках. Плыў над імі дым.*
*Жанчын купальнікі мільгалі,*
*Жанчыны ў лузе загаралі,*
*Нібы на пляжы гарадскім.*

*Яшчэ далёка да змяркання,*
*Яшчэ трава ў пакосах вяне,*
*Але, як бачыце, але...*
*Адпрацавалі, адрабілі,*
*Пазагаралі, пакурылі*
*І пасвяжэлі на сяле,*

*З якога некалі збягалі,*
*Куды за салам прыязджалі*
*На выхадныя ад станкоў.*
*Надыхаўшыся ў цэху пылам,*
*У край пастылы, зараз мілы*
*Яны вярнуліся ізноў.*

*Людзей не трэба вінаваціць,*
*Дзяржаўнай мудрасці не траціць*
*Нідзе ніколі наш народ.*
*Таго ж, хто толькі мудрагеліць*
*І пальцам у нябёсы цэліць —*
*Адразу бачыць навылёт.*

*Вось будзе заўтра ў цэху смеху*
*Усім астатнім на пацеху,*
*Аж зарагоча ўвесь завод:*
*Аўтобус звёз адзенне шэфаў*
*І толькі раніцай прыехаў —*
*Зламаўся, кажуць, ля варот.*

## Прылюдна...

*Калі застаецца жанчына адна*
*І звонка прылюдна смяецца,*
*Не верце, што стала шчаслівай яна:*
*Смех болем яшчэ адгукнецца.*

*Калі застаецца мужчына адзін,*
*Прылюдна ўслаўляючы волю,*
*Не верце,— як блудны зацюканы сын,*
*Яшчэ захлынецца ад болю.*

*І шчасце, і воля, і радасць, і боль*
*Патрэбны, відаць, чалавеку,*
*Як трэба ў дарозе звычайная соль,*
*Каб не выраджацца ў калеку.*

*А хто з самалюбнасцю жарабка*
*На выпасах сытых гуляе,*
*Нагадвае вечнага жабрака:*
*Жыве, але торба пустая.*

## Дом



*Калі ад'язджаеш з дому,*
*Дзе пакідаеш любоў,*
*Ужо адчуваеш стому,*
*Нібы ты вярнуўся дамоў.*

*А думаў:*
*Мне б з'ехаць толькі,*
*Расслабіцца, адпачыць.*
*Ласкай казённай койкі*
*Сэрца не залячыць.*

*Я слаўлю шляхі-дарогі*
*І магістральны гром.*
*Але пакланіцца ў ногі*
*Дазволь табе, родны дом!*

*І дзе ні езджу, хаджу я,*
*З якога ні п'ю каўша,—*
*Заўсёды дома начуе*
*Чамусьці мая душа.*

*Мой сыне!*
*Галодны ці сыты —*
*Які ні прытуліць край,*
*Роднага дома арбіты*
*Ніколі не забывай.*

*Каб ад'язджаючы з дому,*
*Дзе ты пакінеш любоў,*
*Ужо адчуваў ты стому,*
*Нібы ты вярнуўся дамоў.*

* * *

*Пашкадуйце няверных сяброў.*
*У бяссонныя ночы*
*няверʼе*
*Ім скубе палахлівае перʼе,*
*Студзіць роспаччу вадкую кроў,*
*Пашкадуйце няверных сяброў.*

*Ім цяжэй удвая, чымсьці вам:*
*За памылкі вы ўжо заплацілі*
*І сваім ненадзейным сябрам*
*Вы надзейнасць сваю падарылі.*

*І цяпер што яны зробяць з ёй?*
*Падазронасць нясе ім пакуты:*
*«Чалавек і раздзеты, разуты,*
*А які жыццялюбы настрой!*

*Бачыш, можа ён жыць, не тужыць,*
*Хоць жыццё пашчаляла на часткі...»*
*І на вас расстаўляючы пасткі,*
*Ім сумленне нічым не адмыць.*

*Нават вораг не гэтак страшней,*
*Як сяброў нечаканая здрада.*
*Вораг цэліць грудзіны лявей,*
*А сябры накрываюць гранатай...*

* * *



*На бераг выстылы паўднёвы*
*Плыве праз ранішні туман*
*Зялёнае святло дубровы*
*З мядовым водарам палян.*

*Тут бераг росны муравее,*
*А там, дзе ў прыцемках лаза,*
*Яшчэ пустынна ружавее*
*Наўсцяж пясчаная каса.*

*Яшчэ дажджы не лапаталі,*
*Яна з жыўцоў сцюдзёных п'е.*
*Яшчэ яе не прытапталі*
*І не забрудзілі яе.*

*Дуброву ціхую і вёску*
*З перадсвітальнай цішынёй*
*І гэту чыстую палоску*
*Са свежай зябкасцю рачной*

*Я ўжо не так улетку бачу,*
*Як бачыў шмат гадоў назад.*
*Ды кожны раз,— сабе заначу,—*
*Мне даражэе далягляд.*

*І даражэе, і чужэе*
*З узмахам кожнага вясла,*
*Нібы юначая надзея,*
*Што ў незваротнасць адплыла.*



8 Зак. 2168

## Раз'езд

*На хваробы і на стрэсы*
*Скардзяцца, нібы сябрам,*
*Міжнародныя экспрэсы*
*Прыгарадным цягнікам.*

*Тыя ж, ловячы начамі*
*Жах згрызот-турбот чужых,*
*Толькі лыпаюць вачамі*
*На пуцях на запасных.*

*І ніхто з іх не пакажа*
*Татуіроўку ля бакоў:*
*«Сдесь седели Маша, Яша*
*Плюс прикрасная любов!»*

*Не пакажа ім такое,*
*Ад чаго б любы экспрэс*
*Заківаў бы галавою:*
*«Да чаго дайшоў прагрэс...»*

*Не пакажа, не раскажа,*
*Як грыміць працоўны люд,—*
*Тым, хто толькі баіць Баем,*
*Сам жыве і не шманае,—*
*Свой выносячы прысуд.*

*І якія інтарэсы*
*Сёння мае чалавек,*
*Міжнародныя экспрэсы*
*Не пазнаюць за свой век.*

*Магістральная сустрэча.*
*Каго першым прапусціць?*
*Вунь ён, прыгарадны, крэкча,*
*Міжнародны вунь ляціць.*

## Сакрэт даўгалецця

*Як стаў дзядзька Іван паміраць,*
*Стаў суседзям свой скарб раздаваць.*
*Каму міскі, каму лыжкі,*
*Каму старажытныя кніжкі,*
*Каму пілу, каму сякеру,*
*Каму дзяржаўнай пазыкі паперы,*
*Каму аўсянку, каму пшонку,*
*Каму самаробную тушонку,*
*Перадаў бабыль і маладзічкам штосьці,*
*Каб і на магілку хадзілі ў госці.*
*І пусты, і нішчымны, як збан,*
*Стаў ачуньваць дзядзька Іван.*
*Ані міскі, ані лыжкі,*
*Ні паперчыны, ні кніжкі,*
*Ні пілы няма, ні сякеры,*
*Ні абеда, ні вячэры.*
*— Не! — заўпарціўся,—*
*Не памру,*
*Пакуль скарб увесь не збяру...*

*І дагэтуль не памірае,*
*Усё скарб свой шукае, збірае...*

## Аблажныя дажджы

*Аблажныя дажджы над абшарам.*
*Дрэвы вецер выкручвае, гне,*
*Не маркотна адным толькі хмарам*
*У маркотнай лясной старане.*

*На душы аблажныя трывогі*
*У аб'ездчыцы.*
*Чым разагнаць?*
*Абсушыцца пусціла з дарогі*
*І паклала за грубкаю спаць.*

*Доўга нешта на кухні грымела,*
*За сцяною варочаўся гром.*
*І маланак пякучыя стрэлы*
*Праляталі за цёмным акном.*

*У разветраным грукаце-звоне*
*Бор стагнаў, скаланаўся і гуў.*
*Быццам едучы ў дрогкім вагоне,*
*Я пад раніцу толькі заснуў.*

*Аблажныя дажджы.*
*І не спіцца.*
*І не знаю, чаму гэта мне*
*Маладая аб'ездчыца сніцца*
*У маркотнай лясной старане.*

* * *



*Чым вякам ты пахвалішся,*
*У вяках чым праславішся,*
*Час маторны і мутарны,*
*Электронны, камп'ютэрны?*

*Мастакамі,*
*Паэтамі,*
*Светлай доляй людскою?*
*Можа, толькі ракетамі,*
*Што вісяць над табою?*

*Можа, сонцам прыручаным,*
*Каб — ні смерчаў, ні сцюжы?*
*Акіянам атручаным,*
*Амярцвеласцю сушы?*

*У раз'ятраным гудзе і брудзе,*
*Чуеш, час што адказвае нам:*
*— Чым мяне вы загрузіце, людзі,*
*Я дарэшты вякам перадам!*

## Рака

*Для радасці трэба не многа.*
*Гаі, пералескі, кусты,*
*Глухая лясная дарога,*
*Рака і на беразе — ты.*

*Няхай аб надзеі пякучай*
*Маёй табе выкажа бор,*
*Касцёр над высокаю кручай*
*І зор незасмучаны хор.*

*Крылом ахінае світанне*
*І нас, і вяршыні бяроз.*
*І верыцца ў вечнасць кахання*
*Пад вечнасцю сініх нябёс.*

*І сэрца змірыцца не хоча*
*У гэтай лясной цішыні,*
*Што пройдуць вясновыя ночы,*
*Што прыйдуць зімовыя дні.*

*Акрыліць нас радасць чужая,*
*Як з'явімся тут праз вякі,*
*Дзе вогнішча наша палае*
*І час яго не залівае*
*На беразе ціхай ракі.*

## Лідэр



*Вось ляціць ён прама, коса,*
*Аж раве надрыўна траса,*
*Пераможца аўтакроса,*
*Аўтааматарак акраса.*

*Толькі войкнуць,*
*Толькі віскнуць*
*Тармазы і ў дыме шыны.*
*І прыхільніцы павіснуць*
*На яго спацелай шыі.*

*А пакуль нібы камета*
*Над бетонкай пралятае.*
*І за ім нясецца следам*
*Аўтазграя хуткасная.*

*Ёк у лідэры прабіўся!*
*Паварот і разварот.*
*І зліваюцца раты ўсе*
*У адзін вялізны рот.*

*Асцярожней, чуеш, хлопча!*
*Спуск наперадзе круты.*
*Гэты рот цябе засмокча,*
*Потым выплюне ў кусты.*

*Ты і спрытны, ты і лоўкі,*
*Ты сапернікаў растоўк.*
*На шчаслівыя ж канцоўкі*
*Не клюе цяпер натоўп.*

*Падавай яму здарэнні,*
*Жах да самых да касцей...*
*Праўду кажуць: прасычэнне*
*Небяспечна для людзей.*

* * *

*«У кожнага сваё па печы...» —*
*Суседку маці суцяшала.*
*Сама ж, падумаўшы аб нечым,*
*Слязу хусцінкай выцірала.*

*Не разумеў я тыя словы,*
*Глядзеў на цётку непрыветна.*
*Мне б толькі з хаты, ды не ў дровы,—*
*Да рэчкі шмыгнуць непрыкметна.*

*Пасля я скардзіўся:*
*— Знявечыў*
*Я сам свой шлях.*
*Жыць цяжка стала...*
*«У кожнага сваё па печы...» —*
*Матуля ціха адказала.*

*Ні спачування-шкадавання,*
*Ні суцяшэння, асуджэння.*
*Але было яе маўчанне*
*Як на дарогу благаславенне.*

*Жывому ад жыцця не збегчы.*
*Яно — не пухам прад табою.*
*«У кожнага сваё па печы...» —*
*Я знаю, што гэта такое.*

*Але, на жаль, прыходзіць вопыт,*
*Як на яго слабее попыт.*

* * *

*Асіннік — прыроды гадзіннік.*
*Сцяты жоўтай журботай,*
*Ён лету падводзіць вынік*
*Сваёй трапяткой лістотай.*

*Калі на спусцелыя пожні*
*Восень дыхне глыбока,*
*Лісток узляціць апошні*
*Вышэй бухматых аблокаў.*

*Ды, сціснуты халадзінай,*
*Над шэраю плынню Сожа*
*Далей журбы жураўлінай*
*Ён паляцець не зможа.*

*Ён будзе павольна падаць,*
*Гайдаючыся ў прасторы,*
*Пакуль не стомяцца плакаць*
*Над ім асеннія зоры.*

*Няма ў гэты час настрою.*
*І гэты лісток зжаўцелы*
*Здаецца жывою душою,*
*Што адляцела ад цела.*



## Ластаўкі

*Ластаўкі пакормяць птушанят,*
*Ім пачысцяць дзюбачкі і крыльцы.*
*І прыціхнуць побач на галінцы,*
*Як сто тысяч год таму назад.*

*Чым жа вабіць вёска пад гарой*
*Іх, вясновай радасці вястунак,*
*Хоць пад чалавечаю страхой*
*Часта ненадзейны іх прытулак?*

*І чаму ён верыць, гаспадар:*
*Як падстрэшша ластаўка пакіне —*
*Нейкая стыхія ці пажар*
*На яго жытло вось-вось нахлыне?*

*І шчабечуць ластаўкі спрадвек,*
*І людскую дабрыню ўслаўляюць,*
*Вераць ёй, як нават чалавек*
*Сам сабе не верыць у адчаі.*

*Чый яны шануюць запавет:*
*Чалавека вераю пазначыць,—*
*Нібы наш і злы, і добры свет*
*На сто тысяч год наперад бачаць?*

* * *



*За лесам сонейка садзіцца,*
*Туман застыў над курганамі.*
*Вячэрні бор прапах жывіцай*
*І выспелымі верасамі.*

*І соснаў цені залаціста*
*Упалі з кручы ў плынь рачную.*
*І свет вячыста і ўрачыста*
*Глядзіць на прыгажосць зямную.*

*І замаўкае спеў птушыны,*
*І рыба ў ямах не пляскоча.*
*І аціхае страх звярыны*
*На узбярэжку дня і ночы.*

*І, як малому, на змярканні,*
*З душы зганяючы самотнасць,*
*Чамусьці верыцца ў паданні*
*І нават, можа, ў несмяротнасць.*

## Абяцанкі

*Колькі сябе помню,*
*Мне ўсе абяцалі нешта прыемнае.*
*І толькі ў дзяцінстве абяцанкі збываліся,*
*Ды і то не заўсёды.*
*І зараз мне абяцаюць:*
*Сіноптыкі — цудоўнае надвор'е,*
*Вучоныя — тэхніка-эканамічны ўзлёт,*
*Філосафы — шчаслівую будучыню.*
*Але навучаны горкім вопытам жыцця,*
*Я сам нічога не абяцаю*
*Ні сіноптыкам,*
*Ні вучоным,*
*Ні філосафам.*
*Нават дзецям сваім*
*Пазбягаю што-небудзь абяцаць,*
*Баючыся не выканаць абяцанне,*
*Баючыся ператварыцца ў балбатуна.*
*У такія выпадкі я прыгадваю свайго настаўніка,*
*Які гаварыў на ўроках мовы:*
*— Я не буду вам абяцаць,*
*Што навучу вас граматна пісаць.*
*Але пастараюся дапамагчы вам*
*Граматна думаць,*
*А думаць, у рэшце рэшт,*
*Павінны вы самі...*

## Срэбнае вяселле



*На срэбным вяселлі не скачуць,*
*На срэбным вяселлі не плачуць,*
*На срэбным вяселлі не п'юць*
*І посуд на шчасце не б'юць.*

*Дык што ж тады робяць*
*На срэбным вяселлі?*
*Вунь, бачыш, як госцейкі*
*шчыльна паселі:*
*Тваіх дваццаць пяць*
*І маіх дваццаць пяць.*
*Пра многае могуць яны расказаць.*

*І ты гэта знаеш, і я не хлушу:*
*Жылі не заўсёды душа мы ў душу.*
*Ды як ні было нам і цяжка і скрушна,*
*Заўсёды жылі мы з табой не бяздушна.*

*Дзяцей гадавалі,*
*З людзьмі сябравалі,*
*Далёкім і блізкім прытулак давалі,*
*І працавалі з табою штодзень,*
*Ты — нібы пчолка, а я — авадзень.*

*І мёду збярэцца, напэўна, замнога*
*У нас да вяселля з табой залатога.*

*Давай жа хоць крышку паскачам,*
*І, можа, хоць крышку паплачам,*
*І вып'ем гаючага зелля*
*З табою на срэбным вяселлі.*

* * *

*Нарач то спявае, то пляскоча,*
*То глыбока дрэмле ў цішыні.*
*Ядраныя жнівеньскія ночы,*
*Сонечныя выспелыя дні.*

*На пагорках пажаўцела ніва.*
*Ружавее па нізах туман.*
*Край мой родны дыхае шчасліва*
*Водарам азёр, лугоў, палян.*

*Дзе ён, дынамітны пах металу,*
*Ад якога чадзела сяло?*
*Быццам не гуло тут, не палала,*
*Быццам не грымела, не пякло.*

*У траве гудуць чмялі і восы,*
*І злучае ў далях позірк мой*
*Ільняныя чыстыя нябёсы*
*З мройна-залацістаю зямлёй.*

*Дык чаму ж разгубленасць і шчасце*
*Я адчуў сярод лугоў і ніў?*
*Быццам перажыў я ўсе напасці,*
*Быццам шмат стагоддзяў я пражыў.*

*Так было, і будзе так заўсёды,*
*Як заўсёды будзе чалавек*
*Векавечнасць адчуваць прыроды*
*І Айчыну не кідаць на здзек.*

* * *



*Падрэзаў бераг пакручасты*
*Над Сожам замчышча старое.*
*Байніцы, сцены і пілястры*
*Вясною зніклі пад вадою.*

*Адразу ўбачыў з пераправы,*
*Калі вярнуўся я дадому,*
*Што краявід і бераг правы*
*Мне стаў чужы і незнаёмы.*

*Сяло за ўзгоркамі дыміцца,*
*Кусты глядзяць з нізоўя куца.*
*Няма дзе воку зачапіцца,*
*Няма душы дзе ўскалыхнуцца.*

*Пад кручаю крычалі кралі —*
*З турысцкай базы развядзёнкі.*
*Яны барадачоў склікалі*
*Магнітафоннае суполкі.*

*Адмахваліся лена тыя,*
*Віхляючыся на пароме.*
*Блішчэлі ногі іх худыя,*
*Нібыта ўзнятыя з прадоння.*

*Падумаў я:*
*Пара настала*
*Яшчэ не знанага нішчым'я.*
*Навошта ж ты, рака, забрала*
*Усё, чым змалку даражыў я?*

## Перасцярога

*Аціхне дожджык-грыбасей,*
*Расой сыпне асіннік.*
*Чародка белая гусей*
*У хмарах чорна-сініх.*
*Калі ў грыбы сабраўся ты,*
*То, гледзячы пад ногі,*
*Глядзі сюды,*
*Глядзі туды,*
*Не збіцца каб з дарогі.*
*У сасняках, каля бяроз,*
*Дзе сонцам дол угрэты,—*
*Дары зямлі — дары нябёс.*
*Не забывай пра гэта.*
*І там, дзе чарано знайшоў,*
*Усланае грыбамі,*
*Мох не скубі, як дзік лычом,*
*Ты сквапнымі рукамі.*
*У нашай ціхай старане*
*Такога ненажэру*
*Лес назаўсёды пракляне,*
*Пазбавіўшы даверу.*
*І непрыкметна дзень пры дні*
*Ты па ягонай ласцы*
*Марнець пачнеш на карані*
*Ад усялякай трасцы.*
*Тым, хто паводзіць у бары*
*Сябе, нібы зладзюгі,*
*Не дапамогуць дактары,*
*Ні зёлкі, ні шаптухі.*
*Не дапаможа ні прагрэс,*
*Ні спогаднасць людская...*
*— Дык ты сабраўся сёння ў лес?*
*— Не, братка, пачакаю...*

* * *



Не трэба жыць як набяжыць.
Так жыць на свеце трэба,
Каб да апошніх дзён любіць
Людзей, зямлю і неба.

Не падаць у сляпы адчай,
Як затрашчаць падпоркі.
Знаць, што жыццёвы каравай
Бывае часам горкі.

Якім ні будзеш малайцом,—
Старайся не забыцца,
Што лепей плакаць з мудрацом,
Чым з дурнем весяліцца.

Хто многа вынес на вяку,
Загартаваўшы волю,
Табе на раны ў час пакут
Ён не падсыпле солі.

Пад знакам шчасця і бяды
Так жыць на свеце трэба,
Нічым каб не зняславіў ты
Людзей, зямлю і неба.



9 Зак. 2168

## Пажарніца

*Касілі мы на ўзгорку пажарніцу,*
*Не ў помач нам ні дожджык, ні раса.*
*Трава, як пераспелая іголіца:*
*Два ўзмахі — і прытупіцца каса.*

*Спытае класны заўтра нас сурова:*
*— Чаму зноў рад апошні пуставаў?*
*А я ад сябра, Мішы Маркаўцова,*
*Пакуль яшчэ нідзе не адставаў.*

*Не трэба нам гультаяватай славы.*
*Хапіла б толькі ўпартасці і сіл*
*Там, дзе майданчык,— падкасіць атавы*
*І пажарніцы ссохлай на падсціл.*

*І сапраўды:*
*Дзе тонка, там і рвецца...*
*Пагладзіўшы сваіх сясцёр, братоў,*
*Як бацька, ён на службу прызавецца,*
*Як бацька, ён не вернецца дамоў.*

*Упаўшы на дунайскія пагоркі,*
*Не дазавецца бацьку дакасіць...*
*І ордэн баявой Чырвонай Зоркі*
*Ніколі майму сябру не насіць.*

## Нам з табою...



*Нам з табою*
*Соладка і горка.*
*Недзе за барамі*
*Дрэмле гром.*
*Нас разбудзіць*
*На світанні зорка*
*Першародным*
*Залатым святлом.*

*Зноўку зацалую,*
*Замілую...*
*І ў накрапах*
*Цёплага дажджу*
*Спакваля цябе*
*На плынь рачную*
*На руках гарачых*
*Апушчу.*

*Ты мне*
*Развітальна усміхнешся,*
*Шыю мне*
*Рукамі абаўеш.*
*Войкнеш,*
*Прыхінешся,*
*Адштурхнешся*
*І на бераг новы*
*Паплывеш.*

*Што ж, плыві.*
*Я даганяць не буду,*
*Я не буду, чуеш,*
*Даганяць!*
*Двойчы не бываць*
*Такому цуду,*

*Гэтакаму цуду*
*Не бываць!*

*Што звяло нас:*
*Шчасце, ці няўдача,*
*Ці начлежны*
*Прывідны касцёр?*
*І чаму над намі*
*Ціха плача,*
*Ціха плача*
*На світанні бор?*

## Развітальны вальс



*Туман ружавее світальны,*
*Нябёсы глядзяцца ў раку.*
*Станцуем жа вальс развітальны,*
*Дайце мне Вашу руку.*

*Станцуем жа тут, ля парома,*
*Пад музыку зор і вады,*
*Каб Вам захацелася дома*
*Зноўку вярнуцца сюды.*

*Дзе чайкі кругляюць над плёсам,*
*Дзе свецяць світальна лясы,*
*Дзе зоркі у вечных нябёсах*
*Нам падаюць галасы.*

*І, можа, ў расквечанай зале,*
*Калі Ваш панікне настрой,*
*Вы ўспомніце, як танцавалі*
*Вальс развітальны са мной.*

*Чаму Вашы ўздрыгваюць плечы,*
*Чаму засмуціўся пагляд?*
*Я ў новыя веру сустрэчы,*
*Верне паром Вас назад.*

* * *

*Блішчастым інеем злятае*
*З дубоў марозная маркота.*
*Ніхто ў нас ноччу не спытае,*
*Куды ляцім з-за павароту.*

*Глядзім на свет начны адкрыта.*
*Шчымлівей бачыцца з гадамі*
*Усё, што намі пражыта,*
*Усё, што склалася між намі.*

*Выбоін на шляху замнога,*
*Але назад няма звароту.*
*Ляціць зімовая дарога*
*У зыркіх плямах галалёду.*

*Не забуксуем —*
*Заначуем*
*Між гурбаў выстылага снегу.*
*З табою мы не засумуем*
*Часінай сцюжнага начлегу.*

*...У снежным воблаку машына*
*Імчыць, дрыготкая, тугая.*
*На шкельца хукае жанчына,*
*Касу павольна расплятае.*

## Славенія



*Славенія —*
*Слова і слава.*
*Любляна —*
*Пяшчота, любоў...*
*Славянская мяккая мова*
*З глыбінь скамянелых вякоў.*

*Свабода*
*Людзей чалавечыць.*
*На гэтай пакутнай зямлі*
*Ні атурэчыць,*
*Ні анямечыць*
*Чужынцы народ не змаглі.*

*І сёння*
*На вулках Любляны*
*У водсветах мірнай зары*
*«Кацюшу» пяюць партызаны,*
*Нібы ў беларускім бары.*

*Чаму ж гэтак ціха спяваюць,*
*Нібы ля начлежных кастроў,*
*Нібыта з-за гор наплываюць*
*Варожыя хмары ізноў?*

*І я, пасланец Беларусі,*
*У водсветах мірнай зары*
*Да явара тут прыхінуўся,*
*Нібы да хваінкі ў бары.*

*Ракеты глядзяць,*
*Як цыклопы,*
*Свет сны міралюбныя сніць,*
*І чыстая ў цэнтры Еўропы*
*Крыніца славянства бруіць.*

## Калі давяраецца маці сын...

*Рыгор Барадулін*
*Да ранку не спіць.*
*Пакутна ўзор паэтычны*
*Тчэцца.*
*На Ушаччыне гром прагрыміць —*
*Дождж*
*На Палессі пральецца.*
*Марозам калючым*
*Сцяла Сібір,*
*Прэе ў субтропіках*
*Глеба.*
*Паэт — словалюб,*
*Паэт — любамір,*
*Сын роднай зямлі*
*І неба.*
*Бачыць усё*
*На экране душы.*
*Голас нябёсаў*
*Чуе.*
*Паэт,*
*Сумуючы па цішы,*
*Спакой раўнадушша*
*Карчуе.*
*Дзіўныя птахі*
*Спяваюць над ім,*
*Хаця свет*
*Трывогі множыць.*
*І горка-салодкі*
*Айчыны дым*
*Памяць яго*
*Трывожыць.*
*Пакуль рука*
*Трымае пяро*

*На беразе Ушачкі*
*Ці Сожа,*
*Верыць паэт:*
*Пераможа дабро,*
*На свеце*
*Дабро пераможа!*
*...У вырай плыве*
*Жураўліны клін*
*І заварочвае*
*Зноў на Айчыну.*
*Калі давяраецца*
*Маці сын,*
*Верыць маці*
*Такому сыну...*

## Доля

*А ведалі*
*На Ўсходзе ўладары:*
*Паэты —*
*Вешчуны і бунтары,*
*Мяцежнікі паэты*
*І пракокі,*
*І чыстыя,*
*Як горныя патокі.*

*Нацкоўвалі*
*Фанатыкаў на іх,*
*Іх рукапісы*
*У агні палілі,*
*Народ жа*
*Далучаў іх да святых,*
*Іх песні шанаваў*
*І іх магілы.*

*Ці не таму*
*Яны, уладары,*
*Іх пачалі прыручваць*
*Пры двары,*
*Каб толькі іх*
*Паэты апявалі,*
*Авечкамі*
*Пакорлівымі сталі?*

*Але выліньваў*
*Залаты халат*
*У тых,*
*Хто не ўтрымаўся*
*Ад спакусы.*
*Паэт сапраўдны —*
*Чалавеку брат.*

Ён у гарэм
Сваю не сплавіць музу.

Іншой паэт сапраўдны
Ў жабракі,
Ды не працягваў
Ўладарам рукі.

## І я шукаў...

*І я шукаў*
*Гармоніі і згоды*
*З самім сабой,*
*З нябёсамі*
*Здаўна.*
*Але чым больш*
*Я пазнаваў прыроду,*
*Тым больш мяне*
*Цуралася яна.*
*Я, творца*
*Мікрасхем і тэлескопаў,*
*Глядзеў у бездань*
*Зорнай нематы.*
*Але замест*
*Нябесных недахопаў*
*Знаходзіў*
*Дасканаласці сляды.*
*І думка,*
*Што ўсё у свеце*
*Дасканала,*
*Мае памкненні*
*Ўсё ж не даканала.*
*Я, вязень і ўладар*
*Жыцця планет,*
*Пачуў,*
*Касмічнай апантаны сілай,*
*Як цікае*
*Гадзіннікавай мінай*
*Над самым вухам*
*Таямнічы свет.*

ЗМЕСТ



**Грачанікаў А.**

Г 78 Я вас люблю...: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 143 с., іл.

Новы зборнік Анатоля Грачанікава, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі — своеасаблівы гімн чалавеку-працаўніку, гаспадару роднай зямлі і свайго лёсу. Паэт раскрывае ў вершах шырокі свет пачуццяў сучасніка, сцвярджае высокія маральна-этычныя нормы нашага жыцця. У паэзіі арганічна спалучаецца лірызм і грамадзянскі пафас.

**Г $\frac{4702120200-097}{М302(05)-86}$ 52—86** **ББК 84Бел7**



*Анатолий Семенович Гречаников*

*Я ВАС ЛЮБЛЮ...*

*Лирика*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Рэдактар Н. І. Семашкевіч*
*Мастак Л. П. Дубавіцкая*
*Мастацкі рэдактар А. М. Малышава*
*Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна*
*Карэктар К. А. Крукоўская*

ІБ № 2410

Здадзена ў набор 24.01.86. Падп. да друку 27.05.86. АТ 00579. Фармат 70×90$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,41. Ул.-выд. арк. 4,80. Тыраж 4500 экз. Зак. 2168. Цана 75 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.